ГОД VIII ЛІСТАПАД - СЬНЕЖАНЬ № 63
1954 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ



**BOŽYM ŠLACHAM**

**(SUR LA VOIE DIVINE)**

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL

Année VIII. № 63 Novembre-Décembre 1954

51, rue des Sts-Pères — PARIS - VIe

| Перадплата «Божым Шляхам» на 1955 г. | | |
|---|---|---|
| | За адзін нумар | На год |
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

**Chèque Postale : Paris c. 6287 44 R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI[e].**

У АНГЛІІ:

**Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У АРГЭНТЫНЕ:

**Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981. 4, de Junio, Buenos Aires.**

У АЎСТРАЛІІ:

**Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str. East BRISBANE. Q-ld.**

У БЭЛЬГІІ:

**M. l'Abbé Czerniaŭski François, Michelse 202. LOUVAIN.**

У НЯМЕЧЧЫНЕ:

**Dechant Michael Moskalik. Konto, N° 135259, P. Sch. A. Hannover. in Goslar,**

## У 1954 г. ПРЫСЛАНА Ў РЭДАКЦЫЮ Ў ФОРМЕ ВЫМЕНЫ НАСТУПНЫЯ ПЭРЫЁДЫКІ:

Аб'еднаньне Нр. Нр. 50-52.
Абежнік БІНІМ Нр. Нр. 2, 3.
Бацькаўшчына Нр. Нр. 1-48.
Баявая Ускалось Нр. 4.
Беларус Нр. Нр. 46-50.
Беларускі Голас Нр. Нр. 1-3.
Беларускі Патрыёт Нр. Нр. 1-2, 3.
Беларускі Эмігрант Нр. 58.
Веда Нр. Нр. 24-28.
Віці Нр. 5.
Дакуманты і факты Нр. 3.
Запісы БІНІМ Нр. Нр. 5, 6.
Інфармацыйны Бюлетэнь СББ Нр. Нр. 19, 20.
Каласкі Нр. Нр. 22-25.
Камбатанцкі Голас Нр. 1.
Лісток к Беларусам Нр. Нр. 1-10.
Конадні Нр. 1.
Моладзь Нр. 32.
Сіла Веры Нр. 7.
Сялянскі Кліч Нр. 1.
Царкоўны Сьветач Нр. Нр. 4, 5.
Шарсьцень Нр. 13-14.
**Biuleten Addziełu B.-A. Z. u Chicago Nr. 4.**
**Łučnik Nr. Nr. 18, 19.**
**Słova Božaje Nr. Nr. 1-44.**
**Syndykalnyja viestki Nr. 6.**
Вістник Нр Нр. 1-22.
Вісті Нр. Нр. 1-9.
Голос Христа Чоловіколюбця Нр. Нр. 74-77.
Канадійський Ранок Нр. Нр. 795-814.
Ми і Світ Нр. Нр. 12, 13.
Народне Слово Нр. Нр. 1-37.
Україна Нр. 8.
Наша Церква Нр. 7.
Українець-Час Нр. Нр. 1-51.
Український Вістник Нр. Нр. 1, 3.
Український Голос Нр. Нр. 1-47.
Шлях Нр. Нр. 1-50.
Слідами Малої Святої Нр. Нр. 1-3.
Жизнь с Богом Нр. 3.
Козак Нр. Нр. 20-23.
Наш Приход Нр. Нр. 11-13.
Россия и Вселенская Церковь Нр. Нр. 1-5.
ABN Correspondance Nr. Nr. 1-8.
Analecta Ordinis S. Basilii Magni. Series II. Sectio II. Vol. VII. Fasc. I-IV.
Idziemy Nr. Nr. 27-32.
Głos Konfederacji Nr. Nr. 5-9.
Katholischer Digest Nr. Nr. 1-11.
Knygu Lentyna Nr. Nr. 64-75.
Oriente Nr. Nr. 1-4.
Oriente Cristiano Nr. Nr. 1-11.
Vers l'Unité chrétienne Nr. Nr. 59, 60.
Bulletin d'Academie Intern. Libre des Science et des Lettres. 1954.

## КНІГІ ПРЫСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ:

Лукаш Калюга. Нядоля Заблоцкіх. Аповесьць. Выд. «Бацькаўшчыны». Мюнхэн 1954, 8°, стар. 127.

Кіпель Е., Аснова маралі (фундамант этыкі). New York 1953 f. 8° star. 56.

Блаженного Георгия Акафист Божией Матери, Fordham 1954, f. 16°, star. 55.

Стахій Стеблецький, Переслідування Української і Білоруської Католицької Церкви російськими царями. Укр. Кат. Вид. в Мюнхені. 8°, стар. 104.

Уладзімер Жылка, Творы. Да 20-тых угодкаў сьмерці. Пад рэдакцыяй і з камэнтарамі Ант. Адамовіча. Ню Ёрк 1953. 8°. (Выданьне недаканчанае).

**Memorandum para el primer Congreso Anticomunista Panamericano. Mexico 1954. f. 8°. star. 32.**

(Працяг на вокладцы ***).

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VIII. ЛІСТАПАД-СЬНЕЖАНЬ 1954 г. № 63

# Мэсіяністычныя прароцтвы

Прыход Збавіцеля на сьвет стаўся зваротным пунктам у жыцьці чалавецтва. Аб гэтым сьведчыць ня толькі багасловія, але і ўся гісторыя. Гэткая важная падзея ня была неспадзеванкаю; да яе Бог падрыхтоўваў людзей ад заранья вякоў.

Ужо апавяданьне аб упадку ў грэх прабацькоў мае прарочы сказ, што семя жанчыны сатрэ галаву зьмея, хоць ён і будзе жаліць яе пяту (Быць. III, 15).

Патрыярху Аўрааму (2. тысяч. да Хр.) абяцаў Бог: «Усе плямёны зямныя багаславяцца ў табе» (Быць. XII, 3), а крыху пазьней яшчэ двойчы паўтарыў Аўрааму гэтае абяцаньне (Быць. XXVI, 4. і XXVIII, 14).

Патрыярх Якуб, багаслаўляючы свайго найстарэйшага сына Юду, выказвае першы раз намёк на час прыходу Мэсіі: «Не адымецца скіпетр ад Юды, ані правадыр ад патомкаў яго, аж дакуль ня прыйдзе той, што мае быць **пасланы,** і Ён ёсьць спадзяваньне народаў» (Быць. XLIX, 10).

Аб тым, што час прыходу Мэсіі ў часе вандроўкі жыдоў па пустыні (XV век) ня быў яшчэ блізкі, казаў прарок Балаам, які па загаду цара Моаба меў праклінаць жыдоў, але замест праклясьця, багаславіў іх і ўканцы казаў: «Бачу Яго, але не цяпер; узіраюся ў Яго, але ня з блізка. Народзіцца зорка ад Якуба, устане розга ад Ізраіля і разбурыць князёў Моава, зьнішчыць усіх сыноў Сэта» (Лік. XXIV, 17).

Майсей (XV в.) аб прыходзе Мэсіі гаварыў, як аб вялікім прароку: «Прарока ад народу твайго, спаміж братоў тваіх, як мяне, уздыме табе Госпад Бог твой, Яго слухайце» (Другаз. XVIII, 15). Гэтыя простыя словы важныя тым, што на іх потым спасылаўся Сам Хрыстос: «Каб вы верылі Майсею, дык верылі-б і Мне, бо ён пісаў аба Мне» (Ів. V, 46). На аснове гэтага-ж тэксту самарытане, якія з усяго Старога Запавету прызнавалі толькі Пяцікніжжа Майсея, верылі ў прыход Мэсіі.

У пэрыядзе жыдоўскіх цароў мэсіяністрчныя прароцтвы стаюцца больш дакладнымі. Прарок **Натан** (каля 10 стаг. да Хр.) прадсказваючы Давыду сьветлыя дні панаваньня Салямона, забягае ўперад аж да часоў Мэсіі, аб якім Бог кажа: «Я буду Яму Айцом, а Ён будзе Мне Сынам» (I. Параліп. XVII, 13). Пачынаючы ад часоў Давыда часта Мэсія будзе звацца царом і ня менш часта Яго называюць Сынам Божым». «Сказаў Мне Госпад: Ты ёсьць Сын Мой, сягоньня Я радзіў Цябе» (Пс. II, 7). У зьвязку з асаблівою мэтаю прыхаду Мэсіі, каб прынесьці сябе ў ахвяру за людзей, Яго так-жа называюць сьвятаром: «Ты ёсьць сьвятар на век паводля ўставу Мэльхісэдэка» (Пс. CIX, 4). На гэты тэкст спасылаецца ап. Павал, калі гаворыць аб сьвятарстве Хрыста (Жыд. VII, 1-7). Звычайна сьвятары хутка мінаюцца, а сьвятар паводля ўставу Мэльхісэдэка, гэта значыць валадара справядлівасьці, валадара міру, мае быць вечна — такім ёсьць толькі Хрыстос.

З таго-ж часу жыдоўскіх цароў маюцца першыя прароцтвы аб прасьледаваньні Мэсіі. Шмат ёсьць гэткіх прароцтваў у псальмох, дык нічога дзіўнага, што ў Эвангельлях і апостальскіх лістох, падчас апісаньня мукаў Хрыста часта спасылаюцца на псальмы. Напрыклад пс. LXVIII хоць не належыць да поўнасьцю мэсіяністычных псальмоў, але мае шмат сказаў, якія споўніліся на асобе Хрыста; такія, як: «Зьненавідзелі Мяне дарэмна» (Ів. XV, 25). «Рупнасьць аб доме Божым зьядае Мяне» (Ів. II, 17) і даслоўна споўніўся верш 22: «Замест стравы, яны жоўць Мне далі, і калі меў смату, напаілі Мяне воцтам» (Мат. XXVII, 48). Шмат споўнілася з мэсіяністычнага пс. XXI. З Хрыста сьмяюцца, калі Ён быў на Крыжу (в. 8. — Мат. XXVII, 39). Наругаюцца з Хрыста дасломўна славамі псальму: «Надзеяўся на Госпада, няхай збавіць Яго, няхай вызваляе Яго, калі Яму любы (в 9 — XXVII, 43). «Яны дзеляць адзежу Маю і на вопратку Маю кідаюць лёс» (в 19 — Мат. XXVII, 35; Ів. XIX, 24). Псалом XV прадсказвае ўваскрасеньне Хрыста: «Бо не пакінеш сьвятога свайго ў пекле» (в 10). На яго спасылаўся потым ап. Пятро ў сваёй прамове да жыдоў (Дзеян. Ап. II, 25-36). У іншых псальмох сустракаюцца толькі пасобныя мэсіяністычныя сказы.

У пэрыядзе парокаў зьяўляюцца ўжо зусім дакладныя прароцтвы аб Мэсіі. Тут пералічым іх

не ў хронолёгічным парадку, але перш зьвернемся да меншых прарокаў, а потым да большых.

**Осія** (VII в. да Хр. сучасьнік Ісаіі) прадсказвае канец жыдоўскага царства, расьсеяньне жыдоў па сьвеце, а потым іхняе прыняцьце навукі Мэсіі — наверненьне (III, 4-5) .

**Іоіль** абвяшчае сасланьне Духа Сьвятога на вучняў Мэсіі: «І будзе, пасьля гэтага выльлю Духа Майго на ўсякае цела; і будуць прарочыць сыны вашы і дочкі вашы; старым вашым будуць сьніцца сны і юнакі вашы будуць бачыць зданьні. І на рабоў Маіх і на рабыняў Маіх у тыя дні выльлю Духа Майго» (II, 28-29). На гэтае прароцтва спасылаўся ап. Пятро (Дзеян. Ап. II, 17-21), калі першы раз у Новым Запавеце зышоў Сьв. Дух на апосталаў.

**Амос** (Сучасьнік прар. Осіі VII в.). Гэты прарок агульна абвяшчае валадарства Мэсіі (IX, 11-15) ў форме дачаснага дабрабыту.

**Іона** сам уласьціва нічога не гаворыць аб Мэсіі, але самая гісторыя прарока, ягонае прабываньне ў чэраве якогасьці марскога латвора, сталася правобразам прабываньня Хрыста ў гробе. Калі жыды прасілі ў Хрыста знаку з неба, дык Ён ім адказаў: «Род крывадушны і чужаложны шукае знакоў і знакі ня будуць даны яму апрача знаку Іоны прарока» (Мат. XII, 39).

**Міхэй** (канец VII в. да Хр.). Паказвае на ўнівэрсалістычны характар прышлага мэсіяністычнага валадарства і дакладна азначае мейсца народжаньня Хрыста: «І ты, Бэтлеем, Эўфрата, меншы ты між гарадоў Юды, але з цябе Мне выйдзе той, што будзе валадаром Ізраіля. Ягонае паходжаньне ад пачатку, ад вечных дзён» (V, 2). Паводля гэтага тэксту жыдоўскія кніжнікі на запытаньне Гэрада, дакладна азначылі, дзе радзіўся Хрыстос і туды, значыць у Бэтлеем, накіравалі ўсходніх магаў пакланіцца Нованароджанам у (Мат. II, 5-6).

**Аггей**, які жыў падчас будовы новае сьвятыні ў Ерузаліме (к. 530 г. да Хр.) бачачы, як жыды сумавалі, што яна шмат бяднейшая, як калішняя салямонава, суцяшаў іх тым, што новая сьвятыня будзе мець той гонар, што ў сваіх мурох будзе некалі вітаць Хыста: «Вось як гаворыць Госпад сіл: ужо незадоўга і Я парушу неба і зямлю, мора і сухадол. І парушу ўсе народы; і прыйдзе той, Якога чакаюць усе народы, і напоўню гэты дом славаю» (II, 7-8).

Амаль усе прароцтвы **Захарыі** (перш. пал. IV ст. да Хр.) маюць мэсіяністычны характар. Між іншым Захарыя вельмі дакладна прадсказвае ўваход Хрыста ў Ерузалім: «Узрадуйся дачка Сіону, усьцешся дачка Ерузаліму: вось цар твой ідзе к табе справядлівы і Збавіцель; сам Ён бедны і ўсядаючы на асьліцу і на маладое асьляня» (IX, 9). Эвангэліст Матэй спасылаецца на гэты тэкст (XXI, 5). У Захарыі ёсьць шмат прароцтваў аб муках Мэсіі: «Паражу пастуха і расьсеюцца авечкі» (XIII, 7). «І будуць узірацца на Мяне, каторага праб'юць і будуць плакаць наўзрыд аб Ім, як аб адзінародным і сумаваць аб Ім, як сумуюць аб сьмерці першароднага» (XII, 10) і інш.

**Малахія** (сярэд. IV. ст. да Хр.) абвяшчае прыход прадцечы: «Вось я пашлю анёла майго і падрыхтуе шлях перад абліччам Маім. І адразу прыйду ў сьвятыню сваю, Валадар, Якога вы шукаеце і анёл запавету, якога вы хочаце» (III, 1). На іншым мейсцы Малахія прадцечу называе пракам Ільлёю: «Я вам пашлю прарока Ільлю перш чым прыйдзе вялікі і страшны дзень Госпада» (IV, 5). Адно з найбольш важных прароцтваў Малахіі абвяшчае ўстанаўленьне новае ахвяры Новага Запавету — Эўхарыстыі: «Хто ёсьць між вамі, што замыкае дзьверы мае сьвятыні і хто запальвае сьвятло на Маім аўтары задарма? Няма Майго багаславенства для вас, кажа Госпад сіл, і прыносаў з рук вашых Я ня прыйму. Бо ад ўсходу сонца аж да захаду ёсьць вялікае Маё імя між народамі; і на кожным мейсцы Мне будуць ахвяроўваць і прыносіць Майму імені чыстую ахвяру» (I, 10-11). Гэта збылося першы раз на Тайнай вячэры і ад таго часу беспарарыўна прадаўжаецца на ўсіх аўтарох у Каталіцкай Царкве.

Пераходзячы з чаргі да большых прарокаў зьвернемся ў першую чаргу да прарока **Ісаіі** (канец VII ст. да Хр.). У яго знаходзіцца ня толькі прадсказаньні аб прыхадзе Збавіцеля, але падана вельмі дакладная Яго характэрыстыка. Прарок дакладна прадсказвае народжаньне Мэсіі ад дзевы. Калі зьняверапы юдэйскі цар Ахаз пабаяўся прасіць у Бога знаку на перамогу над сірыйцамі, прарок Ісаія зьвяртаецца да цара і да ўсяго народу: «Дзеля гэтага Госпад сам дасьць вам знак: Вось дзева пачне і родзіць сына і назаве яго Эмануэль» (VII, 14). Эвангелісты спасылаюцца на гэты тэкст. Мат. I, 23; Лук. I, 31. У далейшым Ісаія называе Мэсію царскімі і боскімі імёнамі: «Бо дзіцятка радзілася нам і сын даўся нам — і валадарства яго на плячох яго і будзе Ён звацца Цудовы, Годчы, Бог, Моцны, Айцец будучага веку, Князь міру. Памножыцца валадарства Яго і міру Яго ня будзе канца (IX, 6-7). Да выкананьня свайго пасланьніцтва Мэсія пакліканы ўжо ў лоне свае мацеры: «Госпад з лона мацеры Мае паклікаў Мяне і з нутра яе назваў імя Маё» (XLIX, 1). Характар Мэсіі будзе вельмі лагодны: «Ён ня будзе крычаць, ня будзе зважаць на абліччa і ня будзе чутно (на вуліцах) Яго моцнага голасу. Трасьціны надломанае Ён не пераломіць і льну тлеючага не загасіць і будзе судзіць па праўдзе» (XLII, 2-3). Лагоднасьць Мэсіі ня зьменіцца і ў часе мукаў: «Цела сваё даў тым, што б'юць, шчокі — тым, што рвуць, абліччa свайго не адвярнуў ад наругаў і запляваньня» (L, 6), (Мат. XXVI, 27). Мэсію будуць ненавідзець прыслужнікі валадароў (XLIX, 7). Уся 53-а

глава прысьвячана апісаньню цярпеньня Мэсіі, падаючы адначасна глыбокую сутнасьць таго цярпеньня: «Але Ён паранены за нашыя бясчынствы і скрышаны за нашыя злочыны. Пакараньне міру нашага на Ім, і ранаю Яго мы аздароўлены» (LIII, 5). «Ахвяраваны, бо Сам так хацеў, і не адчыніў вуснаў сваіх; як авечка быў ведзены на ўбой, і як ягня бязмоўны перад тым, што стрыжэ Яго, так Ён не адчыняў вуснаў сваіх» (LIII, 7). Восьжа найглыбейшы сэнс цярпеньня Мэсіі, гэта адпакутаваць за грахі людзей, дзеля гэтага Ён і прыймае найгоршыя мукі і паніжэньне, але коштам гэтага цярпеньня адбудзецца паеднаньне грэшнікаў, будзе заснавана Царква і навернуцца ўсе народы: «І народы будуць хадзіць у сьвятле, а валадары ў бляску, які выходзіць з Цябе» (LX, 3).

Прыгожа апісвае Ісаія навучальную дзейнасьць Мэсіі: «Дух Госпада Бога на Мне, бо Госпад памазаў Мяне, для дабравешчаньня ўбогім і паслаў Мяне аздараўляць разьбітых сэрцам, абвяшчаць увязьненым вызваленьне і астрожнікам — адкрыцьцё турмы» (LXI, 1) (пар. Лук. IV, 13).

Большая частка канцавых прароцтваў Ісаіі прысьвячана апісаньню перамогі Мэсіі, устанаўленьню Царквы (Сіону), распаўсюджаньню эвангельля па ўсім сьвеце. Агулам паводля багацьця мэсіяністычных прароцтваў кніга Ісаіі займае першае і асаблівае мейсца ў сьв. Пісаньні.

**Ерэмія** (к. 640-580) гэта адзін з найбольш трагічных пракаў; ён моцна любіў свой край і свой народ, але ў сваіх прароцтвах бачыў і абвяшчаў вялікія няшчасьці для любага народу, якія мелі прыйсьці за ўчыненыя грахі. Мэсіяністычныя прароцтвы ў Ераміі маюць больш агульны характар аб валадарстве Мэсіі. Часам аднак прарок падае некаторыя важныя бліжэйшыя азначэньні Мэсіі; ён напр. кажа, што Мэсія будзе паходзіць з давідавага роду: «У тыя дні, і ў той час Я дам парастак Давіду, парастак справядлівасьці» і будзе рабіць суд і праўду на зямлі — (XVIII, 5). Жыдоўскае сьвятарства з роду Левіі будзе зьнішчана (III, 16), а на яго мейсца будзе ўстаноўлена іншае (XXX, 18). Характар Мэсіі будзе лагодны, як ягняці (XI, 19).

**Езэкііл** (усп. між. 597-570) прадвяшчае нараджэньне Мэсіі з давідавага роду і што яго валадарства будзе мець новы і вечны запавет (XVI, 30). Мэсію прарок малюе, як добрага пастыра: «І пастаўлю над імі аднаго пастыра, Які будзе пасьвіць іх, слугу майго Давыда; ён сам будзе пасьвіць іх і ён будзе іх пастырам» (XXXIV, 23). Потым Хрыстос часта ў прыповесьцях называў сябе добрым пастырам (Ів. X, 11, 14 і інш.).

У прароцтвах **Данііла** (к. 606-530) ёсьць вельмі шмат вестак аб Мэсіі. Амаль уся другая частка кнігі прар. Данііла (главы 7-12) прысьвечана мэсіяністычным і апакаліптычным часом.

Паходжаньне Мэсіі мае быць нязвычайнае, боскае, бо Мэсія мае зыйці з неба: «Бачыў я ў начным прывідзе, вось з нябеснымі хмарамі быццам Сын Чалавечы дайшоў аж да Адвечнага днямі і быў падведзены да Яго. І даў Яму ўладу, і гонар, і валадарства; і ўсе народы, пакаленьні і мовы будуць служыць Яму; Яго магутнасьць —магутнасьць вечная, якая ня мінецца, і валадарства Яго ня зьнішчыцца» (VII, 13-14). Аб боскім характары Мэсіі мае сьведчыць так-жа тое, што Яго прарок называе «памазаным» (IX, 24). Ён-жа будзе мець уладу дараваць грахі (там-жа). Мэсію прарок усюды называе Сынам Чалавечым. Потым Хрыстос вельмі часта карыстаўся гэтым назовам у адносінах да Сябе. Асабліва слаўнае прароцтва Данііла аб часе прыхаду Мэсіі: «Бог скараціў час да семдзесят сядміц на карысьць вашага народу і вашага сьвятога места» ,IX, 24). «І пасьля шасьцідзесяці двох сядміц заб'юць Хрыста» (IX, 26). Розна паясьняюць гэтыя «сядміцы», але найбольш прынята іх лічыць за гады, праз гэта час прыходу назначаўся- на 490 гадоў, а час сьмерці на 434.

Пры нагодзе варта ўспомніць, што Данііл мае шмат эсхаталягічных прароцтваў аб паўторным прыхадзе Хрыста судзіць жывых і памёршых, (VII, 13-14, XII,2-3).

Так выглядаў-бы кароценькі перагляд галаўнейшых і важнейшых прароцтваў адносна Хрыста ў Старым Запавеце. Абмяжоўваемся пералічэньнем толькі важнейшых прароцтваў, бо для нас самае важнае ведаць, што тэткія прароцтвы ў Старым Запавеце ёсьць. Бязумоўна некаторыя прароцтвы няясныя, некаторыя няпоўныя — бо-ж гэта Боскія думкі, але выказаныя людзкою недасканалаю мовою. Усе мэсіяністычныя прароцтвы набіраюць сваё значэньне ў эвангельскім сьвятле, і трэба дадаць, што толькі ў эвангельскім сьвятле яны маюць свой сэнс. Бяз прыхаду Хрыста, бяз Эвангельля яны асталіся-б якоюсьці бессансоваю пісанінаю, тады, калі ў зьвязку з асобаю Хрыста, яны выяўляюць свой боскі пачатак, хоць і выказаныя простаю, часам пакалечанаю людзкою моваю.

Аднак гэты агляд прароцтваў аб Збавіцелю быў-бы вельмі няпоўны, калі-б не ўспамянуць, што ў паганскіх народаў былі так-жа шматлікія прароцтвы, аб маючым прыйсьці Збавіцелю сьвету. Бог у сваёй міласэрнасьці ня выключаў ніводнага народу. Наглядны прыклад гэтага знайходзім у дзейнасьці прарока Іоны, якога Бог паслаў у паганскі горад Нінівію. І паслухаліся нінівіцяне асьцерагаючага божага голасу лепш чым слухаліся жыды — выбраны народ. Гэтым самым у Сьв. Пісаньні знайходзім доказ, што Бог пасылаў пракаў і да паганаў, дык пасьля гэтага ня будзе дзіўна, што ў паганаў

знайшліся так-жа не бяз Божае волі мэсіяністычныя прароцтвы.

У **кітайцаў** вучань Конфуцыя Тсэ-Сэ (V. в. да Хр.) у сваім творы Джун-юнг апісвае сваю гутарку з Конфуцыем, у якой між іншым кажа, што Конфуцый лічыў сябе нягодным называць сьвятым, на гэта Тсэ-Сэ заўважвае: «Настаўніку, я чуў, што ў заходніх краінах будзе Сьвяты, каторы не пануючы, не дапусьціць да разрухаў, не пераконваючы — натхне вераю. Ніхто са сьмяротных не патрапіў-бы Яго назваць, але я чуў, што гэта будзе праўдзівы Сьвяты».

У **Індыі** племя Парансаў ад няпамятных часоў верыла, што найвышэйшы Бог-Віщну некалі пашле на зямлю Збавіцеля, каб вызваліць людзей с-пад улады зла і Ён мае радзіцца ў доме пастушкі, зл\ажаць ахвяру і завесьці ўсюды валадарства справядлівасьці. Называлі яго Богам-Агні і ўважалі за пасрэдніка між Богам-Вішну і людзьмі.

У **Пэрсыі** ідэя аб Мэсіі знайходзілася ў старой пэрскай рэлігіі і знайшла свой адгалосак у Зэнд-авэста, дзе гаворыцца, што на зямлю мае прыйсьці пасрэднік між Богам і людзьмі і будзе звацца Каошіанк г. зн. Збавіцель. Ён мае радзіцца ад дзевы і зьнішчыць на сьвеце сілу зла, таму сьвет назве яго пераможцам. Ён мае заснаваць царства міру, абнавіць сьвет ад граху, даць чалавеку несьмяротнасьць і ўваскрасіць памёршых.

**Халдэйцы** верылі, што некалі мае радзіцца ад бязгрэшнае дзевы Сьвяты Усходу і да Яго калыскі будзе весьці зорка нябывале яснасьці. Відаць на аснове гэтае традыцыі прышлі ў часе нараджаньня Хрыста тры магі з Усходу.

У **Грэцыі** дык філязофы, зьняверaныя дарэмнымі пошукамі разьвязкі найаснаўнейшых жыцьцёвых пытаньняў, выказвалі жаданьне і спадзяваньне, што хтосьці прыйдзе з неба і прынясе людзям праўду.

Плятон (429-347 да Хр.) у творы «Алькібіяд» падае такую гутарку Сакрата з вучнем Алькібіядам:

— Бацька, скажы нам — просіць Алькібіяд — як мы павінны шанаваць Боства?

— Дарагі прыяцелю — адказвае Сакрат — аб гэтым можа сказаць толькі самое Боства і толькі яно можа нас павучыць, што яму падабаецца. Мы павінны чакаць, пакуль Найвышэйшая Істота пашле нам кагосьці з неба і той нам скажа, як мы павінны шанаваць Бога.

— О, каб гэта сталася, пакуль я жыву — усклікнае Алькібіяд — як я хачу Яго пабачыць!

У іншым творы «Фэдон» той-жа Плятон выказвае зусім падобную думку: «Мы мусім пачакаць, калі нехта прыйдзе з неба і навучыць нас, якія ахвяры складаць Боству».

У творы «Рэспубліка» (II, 161) Плятон выказвае думку аб пасрэдніку між Богам і людзьмі, якога несправядліва засуджана, падобна да Сакрата, і што Той пасрэднік пойдзе дабравольна на сьмерць, паддасца бічаваньню і расьпяцьцю.

У **Рыме** мела быць старое прароцтва аб прыхадзе Мэсіі сказанае Кумэйскімі Сыбільлямі. Яно мела казаць даволі дакладна, што некалі мае нарадзіцца цар, які будзе Збавіцелем. Аб гэтым прароцтве ўспамінае Цыцэрон (106-43 да Хр.) у творы «De divinatione» 2, 54 (Аб прароцтвах). Да гэтых прароцтваў Цыцэрон скэптычна заўважвае: «Калі так стаіць у кнігах, дык да якога чалавека, да якога часу адносіцца гэны сказ?» У іншым сваім творы «De respublica» кн. III ён так-жа успамінае аб часох Мэсіі.

Найслаўнейшы рымскі паэт Віргілій (71-19 да Хр.) ведаў прароцтва Кумэйскае Сібілі аб Мэсіі і ўспамінае аб ім у сваім пастушым чацьвёртым вершы «Ecloge» IV, 4-10:

«Ужо апошні век кумэйскага прароцтва дабягае да канца,
Паўстае зусім новы лад вякоў вышэйшага парадку.
Ўжо будзе паслана новае дзіцятка з вышняга неба,
Зусім будзе сьцёрты лад нашага бясправаўства.
......
Прыйдзі, хай усё цешыцца надыходзячым валаром вякоў»!

Іншы рымскі паэт Горацый (65-8 да Хр.) у адной са сваіх одаў клікаў: «Прыйдзі нарэшце, Сыне праслаўнае дзевы, астанься доўга між свайго народу і ня хутка вяртайся да неба. Знайдзі ўпадабаньне ў тым, што Цябе будуць называць царом і Айцом».

Вялікае значэньне да абгаворванае тут тэмы маюць сьведчаньні старых гісторыкаў аб чаканьні Мэсіі ў народных масах і дзяржаўных кругох. Ведамы рымскі гісторык Тацыт (55-120) піша: «Шмат людзей было пераканана, што ў старых кнігах сьвятароў напісана, што ў тым часе Усход узрасьце і тыя, што паходзяць з Юдэі, прыйдуць да ўлады» (Гісторыя, V, 13). Далей ён апавядае, што гэта мае быць споўненьне пераказаў аб прыхадзе на сьвет абнавіцеля.

Сьветоній (66-161) у гісторыі імпэратара Аўгуста пераказвае сьведчаньне іншага гісторыка Марата, што ў ягоных часох было агульнае чаканьне Збавіцеля сьвету і потым падае цікавую зацемку, у сьвятле якое стаецца зусім гістарычна пэўная крывавая разьня дзяцей Гэрадам: «Марат паведамляе, што ў Рыме відавочна здарыўся нейкі цуд і выявіўся такім чынам, што прырода ўзялася нарадзіць для рымскага народу цара. Дзеля гэтага сэнат (маючы на ўвеце самаўладнага Аўгуста) выдаў быў закон, што ніводзін хлапец, які народзіцца ў тым годзе, ня можа быць гадаваны». Але гэтая пастанова сэ-

нату не дайшла да выкананьня. Толькі Гэрад зрабіў нешта падобнае у Бэтлеем, хоць сам Свэтоній аб разьні Гэрада не ўспамінае.

Да вышэйпералічаных сьведчаньняў можна было-б яшчэ дадаць шматлікія пераказы большых і меншых народаў і плямёнаў, якія ў розных формах мелі нейкую ідэю аб тым, што на сьвет мае прыйсьці хтосьці нязвычайны, Збавіцель.

У старых **Галлаў** недалёка ад Парыжу ў Шартры, дзе жыло племя Друідаў, меў быць калісьці аўтар з напісам: «Virgini Parituare Druides», а ў Ногант меў быць аўтар: «Matri futurae Dei nasciturae». Археалёгія гэтых аўтароў ужо не засьпела, але традыцыя аб іх асталася.

Калі-б цяпер спрабаваць коратка падсумаваць усё вышэй сказанае і спытаць сябе: аб чым усё гэта можна і павінна сьведчыць? Дык бязумоўна будзе толькі адзін разумны адказ, што была калісь нейкая вельмі глыбока прычына, якая абумоўлівала ўсеагульнае чаканьне Збавіцеля. Так Божы правід падрыхтоўваў людзтво да належнага ўспрыняцьця Ісуса Хрыста. Уцелаўленьне Бога — гэта тайна, якое людзкі розум ня ў сілах уцяміць, дык трэба было доўгага часу, і шматлікіх паўторваньняў прарацтваў, каб хоць у людзей добрае волі магло ўтварыцца перакананьне, што Боскі Збавіцель ня ёсьць творам людзкое ўвы, але самаю праўдзіваю рэальнасьцю.

На нікім ня збыліся Старазаветныя прароцтвы аб Мэсіі, толькі на асобе Хрыста і ніхто ня прысвойваў сабе тых прароцтваў акрамя Хрыста. Калі вучні Івана Хрысьціцеля пыталіся ў Хрыста: «Ці ты Той, што маецца прыйсьці, ці чакаць нам другога?» (Мат. XI, 3) Хрыстос адказвае ім прароцтвам Ісаіі. На падобныя запытаньні жыдоў Хрыстос спасылаўся на прароцтвы Майсея і сьведчаньні прарокаў. Час абвешчаны Даніілам так-жа мінуў да часу прыходу Хрыста і скончылася лінія жыдоўскіх цароў з апошнімі Макабэямі, Ірад ужо быў ідумеец.

Праўда жыды ўяўлялі сабе Мэсію, як нейкага дачаснага валадара і некалькі раз рабілі спробы абвесьціць Хрыста царом, але Хрыстос у гэткіх выпадках, нічога ня кажучы, ўхіляўся ад натаўпу (Ів. VI, 14-15). Урачысты ўваход Хрыста ў Ерузалім тлумачыцца так-жа тым, што жыды спатыкалі Яго, як сына Давідавага. Апосталы так-жа ўяўлялі Мэсію як нейкага дачаснага валадара і таму няраз між імі ўзьнікалі спрэчкі за пяршынство пасьля Хрыста, а нават маці Івана і Якава Завэдэяў прасіла Хрыста зусім адкрыта, каб яе сыны селі адзін праваруч, а другі леваруч Хрыста (Мат. XX, 20-22). І толькі пасьля ўваскрасеньня Хрыстос расчыніў апосталам розум дзеля разуменьня пісаньня аб усім тым, што пісалася аб Мэсіі ў Майсея, прарокаў і псальмох (Лук. XXIV, 44-45).

Але занадта людзкое ўяўленьне Мэсіі ў жыдоў зусім ня зьменшвае вартасьці самых прароцтваў. Факт астаецца фактам, што Бог улажыў у вусны прарокаў абяцаньні аб прыхадзе Збавіцеля і выканаў свае абяцаньні, ды выканаў іх ня так як гэтага хацелі жыды, але так, як Сам хацеў. Бог абяцаў людзям і ў адпаведным часе паслаў Свайго Адзінароднага Сына і Ён стаўся Збавіцелем і настаўнікам. Дык што-ж астаецца пасьля гэтага нам — людзям, як не прыняць Яго́ную навуку з ўсёю шчырасьцю! Не на тое-ж Ён прыходзіў на гэты сьвет, каб Яго́ную навуку людзі толькі запісалі ў кнігі і, прыгожа аправіўшы, схавалі ў архівы, але на тое, каб усрыпнялі яе ў свае перакананьні і выконвалі ў штодзенным жыцьці.

Уважнейшыя дасьледнікі гісторыі аднагодна сьцьвярджаюць, што прыход на сьвет Хрыста, стаўся зваротным пунктам у гісторыі. Хрыстос стаўся тым каменем, якога нельга абыйсьці. Недарма Тодар Момзэн спыніў пісаньне свае «Гісторыі Рыму» на чацьвёртым томе, ня могучы знайсьці прыроднага выясьненьня тым ідэалягічным зьменам, якія сталіся ў часе імпэратараў. Або хто можа паясьніць толькі прыроднымі прычынамі тыя частыя крывавыя лазьні, праз якія прайходзяць жыды, калі ня прыме пад увагу таго страшнага праклёну, які яны наклікалі на сваю галаву ў часе суду над Хрыстом, крычучы: «Кроў Яго на нас і на дзецях нашых» (Мат. XXVII, 25)? — гэта адначасна ёсьць грозная асьцярога для ўсіх супрацьхрысціянскіх ідэалёгіяў. Бо ня прышоў Хрыстос на зямлю на тое, каб яго судзілі, але каб стацца Праўдырам і Настаўнікам.

Дзеля гэтага, як-бы нам ня выдаваліся цяжкімі вымаганьні Хрыста, мы з ахвотаю іх прымем і выканаем дзеля нашага асабістага дабра, для дабра ўсяго беларускага народу і для дабра ўсяго людзтва.

**а. Леў**

# Мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі

Сёлета першага лістапада мінула 10 гадоў ад дня сьмерці вызначнага украінскага каталіцкага мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага. Дзейнасьць гэтага вялікага ерарха, сьвятасьць яго́нага жыцьця, глыбіня і шчырасьць любові да ідэі аб'яднаньня Цэркваў, шырыня размаху ягоных плянаў — зрабілі яго слаўным ува ўсёй ягонай вялікай бацькаўшчыне Украіне і шырока ведамым на ўсім сьвеце.

У дзейнасьці мітрапаліта Шэптыцкага Бела-

русь займала паважнае мейсца, дык і нам нельга не азначыць сумных уголкаў ягонае сьмерці. Прозьвішча Шэптыцкага на Беларусі было вядама дзволі добра, але нажаль ня так мітрапаліта, як ягонага нядобрае славы брата гэнэрала, таму іх неабходна добра разрозьніць.

Мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі, у сьвеце Раман-Аляксандар, радзіўся 20 ліпеня 1865 г. у Прылбічах каля Яварава (Галіцыя) у старым украінскім родзе графаў Шэптыцкіх, з якога калісь выйшла двох грэка-каталіцкіх мітрапалітаў: Атаназі (1729-1746) і Леў (1778-1779). У XVIII стаг. гэты род ужо быў даволі спольшчаны і перайшоў на лацінскі абрад, але ў доме яшчэ моцна трымаліся традыцыяў і праз іх захоўвалі жывую лучнасьць з родным краем. Іван Шэптыцкі і Зося з роду графоў Фрэдро — бацькі Рамана-Аляксандра дбалі аб агульным і рэлігійным узгадаваньні сваіх дзяцей. Будучы мітрапаліт згодна з жаданьнем бацькі спачатку студыяваў права ў Кракаўскім, а потым у Вроцлаўскім унівэрсытэтах, здабываючы ў 1888 г. навуковую ступень доктара права. Аднак чуючы моцнае пакліканьне да манашага жыцьця, таго-ж 1888 г. 23 траўня ўступае ў навіцыят айцоў Базыльнаў у Дабрамышлі і прымае ўсходні абрад. Па сканчэньні навіцыяту прымае манашае імя Андрэй і аддаецца студыям філязофіі і багасловіі, якія канчае так-жа з тытулам доктара.



У 1872 г. атрымоўвае сьвятарскія сьвячаньні і прызначаецца на кіраўніка навіцыяту, але не надоўга — у 1896 г. выбіраецца ігумэнам манастыра сьв. Онуфрыя ў Львове, дзе зьвяртае на сябе агульную ўвагу сваею руплівасьцю і шчырасьцю ў працы. На наступны год выбіраецца правінцыяльным сакратаром, а ў 1899 г. Апостальскі Пасад яго назначае Станіславаўскім япіскапам. У Станіслававе прыбыў ня доўга, ужо ў канцы 1900 г. яго назначаюць Львоўскім мітрапалітам. Львоўскі пасад ён абняў 17 студзеня 1901 г.

У Львове мітрапаліт Андрэй змог разгарнуць усе свае здольнасьці, выявіць усё багацьце сваё душы. З Львоўскім мітрапалічым пасадам былі зьвязаны традыцыі калішняе каталіцкае Кіяўскае мітраполіі усх. абраду, паколькі яна была сілаю скасавана расейскім урадам. Круг дзейнасьці мітр. Андрэя пашыраўся з дня-на-дзень і хутка знайшоў жывы адгалосак на Беларусі, бо беларускі адраджэнскі рух быў у кантакце з украінскім цэнтрам у Львове. Калі Іван Луцкевіч, адзін з вызначнейшых піянэраў беларускага адраджэньня, ехаў у 1904 г. у Вену для дапаўненьня сваіх археалёгічных студыяў, дык падарозе затрымаўся ў Львове і ў першую чаргу пастараўся навязаць знаёмства з мітр. Андрэям. Між пачынальнікам беларускага адраджэнскага руху і мітрапалітам знайшліся два супольныя мамэнты, якія аднолькава цікавілі абодвых — гэта археалёгія і ідэя стварэньня беларускае нацыянальнае Царквы ў форме каталіцызму славянскага абраду (Вуніі). Дзеля гэтага знаёмства завязалася хутка і было вельмі трывалым. У тым часе дзякуючы дапамозе мітр. Андрэя у Львове быў зарганізаваны царкоўны музэй, які потым быў ператвораны ў Украінскі Нацыянальны Музэй. Там зьбіраліся старыя мастацкія рэлігійныя памяткі, якія на Беларусі неміласэрна нішчыла расейская ўлада і фанатычнае расейскае духавенства. З дапамогаю мітр. Андрэя Іван Луцкевіч пераслаў ў Львоў шмат вартасных памятак і змог ураталаваць значную частку збораў менскага археалёга Таттура, калі пасьля яго сьмерці вар'ятка ўдава расьцярушвала іх, або нішчыла ненавісныя ёй рэчы.

З архіўнымі рэчамі Іван Луцкевіч часта езьдзіў у Львоў і заўсёды тады гасьцяваў у мітр. Андрэя. У часе такіх гасьцяваньняў быў распрацаваны плян аднаўленьня Вуніі на Беларусі. Карыстаючы з зямельнае рэформы, якую правадзіў у Расеі Сталыпін, было створана Парцэляцыйнае Таварыства, фінансаванае перадусім мітр. Андрэям, якое мела на мэце закупіць на Беларусі некалькі маёнткаў і распарцэляваць іх між беларускімі сялянамі і выслаць да іх некаторую колькасьць украінскіх сялян з Галіцыі, каб гэткім чынам магчы аднавіць каталіцкія парахвіі усх. абраду на Беларусі. Было ўложана шмат энэргіі і грошаў для правядзеньня гэтага пляну, але польскія абшарнікі, дагадваючыся аб сапраўдных мэтах праекту, пачалі рабіць розныя інтрыгі і Сталыпін адмовіўся зацьвердзіць праектаванае Парцэляцыйнае Таварыства.

Аднačасна з праектам аднаўленьня каталіцкіх парахвіяў усх. абраду на Беларусі мітр. Андрэй стараўся стварыць магчымасьць падрыхтоўкі адпаведных кадраў духавенства для будучае працы.

З гэтаю мэтаю ён праектаваў адчыніць у Львове вышэйшую багаслоўскую школу для украінцаў і беларусаў з правам надаваньня дактарату. Даведаўшыся аб гэтым, польскія біскупы пастараліся ў Вене і ў Рыме падняць такі супраціў, што і гэты праект ажыцьцявіць не ўдалося.

Але мітр. Андрэй належаў да тых людзей, якія не зьнеахвочваюцца першымі няўдачамі і цяжкімі перашкодамі. У тым часе ўжо двох беларускіх сьвятароў вучылася ў Інсбруцкім унівэрсытэце, там заўсёды было некалькі украінскіх багасловаў і сьвятароў, гэтую акалічнасьць мітр. Андрэй пастанаўляе выкарыстаць на будучыню ў сваіх плянах адносна падрыхтоўкі адпаведных кадраў для унійнае працы.

Каб лепш абзнаёміцца з магчымасьцямі рэлігійнае працы на Беларусі і ў Расеі, мітр. Андрэй у 1907 г. адважваецца на вельмі небясьпечны крок. У часе свайго прабываньня ў санаторыі Лямана адпусьціў бараду і з пашпартам на імя д-ра Олесьніцкага ён інкогніто едзе ў Вільню, Пецярбург і Кіеў. Каб змыліць гранічных вартаўнікоў, ён ехаў не праз аўстра-расейскую граніцу, але праз Саксонію.

Невялікі тагачасны беларускі актыў у Вільні сустрэў мітр. Шэптыцкага вельмі радасна. Нязвычайны госьць сваею высокаю культураю і глыбокаю ідэйнасьцю збудзіў да сябе ўва ўсіх шчырую любоў і пашану. Ён адведаў рэдакцыю «Нашае Нівы» ды іншыя беларускія ўстановы. З Вільні ў таварыстве Івана Луцкевіча ён адведаў Менск і Случчыну. Якраз тады ў Слуцку адбывалася сельска-гаспадарчая выстаўка і была добрая нагода пазнаць настрої грамадзтва. Далей мітр. Шэптыцкі адведаў Пецярбург, Маскву і Кіяў. У Пецярбурзе ў тым часе беларускі гурток яшчэ толькі станавіўся на ногі.

У часе гэтага падарожжа быў здарыўся вельмі прыкры выпадак, які мог раскрыць інкогніто мітрапаліта. Па дарозе з Менску ў Вільню яго абакралі. Разам з грашыма забралі дакуманты. Антон Луцкевіч у сваіх успамінах аб мітр. Андрэю піша, што «толькі з вялікім трудом удалося папярэдзіць пагражаючую бяду». Потым агульна дагадваліся, што да пакражы спрычыніўся адзін расеец, які ўдаваў беларуса.

Разьвітаньне беларускіх дзеячоў з мітр. Андрэям у Вільні адбылося ў невялікім кругу і на станцыю высокага госьця суправаджаў толькі а. Ж. Хоць мітрапаліт быў апранены па сьвецку, але як садзіўся ў вагон, дык а. Ж. быў кінуўся яму цалаваць руку, толькі энэргічны рух мітрапаліта апамятаў айца, каб ня выявіў яго сваімі паводзінамі.

Потым усё-ж расейская разьведка нейкім чынам даведалася аб падарожжы мітр. Шэптыцкага і газэта «Новае Время» апублікавала востры артыкул з пагрозамі пад адрасам мітрапаліта, што ў выпадку «новае спробы пранікнуць у межы Расеі, яго зловяць і пасадзяць!»

У наступным 1908 г. мітр. Андрэй паехаў у Рым. Там 14 лютага на прыватнай аўдыенцыі ў Сьвяцейшага Айца сьв. Пія X, які быў да таго ягоным шчырым прыяцелем, мітрапаліт зрабіў справаздачу аб сваіх пачынаньнях і плянах. Папа яе выслухаў з вялікім зацікаўленьнем і ўканцы казаў мітрапаліту «Utere iure tuo» — гэта азначала дазвол для карыстаньня праў Кіеўскага мітрапаліта. На наступнай аўдыенцыі 18 лютага папа даў яму шырокія паўнамоцтвы адносна ўсіх абшараў калішняе Кіяўскае мітраполіі, а тым самым і адносна Беларусі.

Варожасьць расейскае ўлады да каталіцызму усх. абраду змусіла мітр. Андрэя да намечаньня новых плянаў працы, але іх пакрыжавала першая сусьветная вайна. Калі расейскія войскі перайшлі граніцу аўстро-вэнгерскае імпэрыі і занялі Галіцыю, адразу пачалі супрацькаталіцкую акцыю і незабавам бо 2 верасьня мітр. Шэптыцкага арыштована і ў таварыстве а. Язэпа Боцяна ды двох манахаў вывезена праз Кіеў у глыб Расеі. Падчас кароткае затрымкі ў Кіяве ён тайна ў гатэлю высьвяціў а. Боцяна на Луцкага япіскапа. Нававысьвячаны япіскап вярнуўся ў Галіччыну, а мітрапаліта адпраўлена перш у Курск, а потым у Суздаль. Ніякія пратэсты перад царскім урадам не памагалі. Вызвалілі мітр. Андрэя толькі пасьля лютаўскае рэвалюцыі ў сакавіку 1917 г.

Выйшаўшы на волю з Суздальскага манастыра, мітр. Андрэй адразу накіраваўся ў Петраград. На станцыі яго віталі украінцы і беларусы бяз розьніцы веравызнаньня і палітычных перакананьняў. Ад імя беларусаў прывітальнае слова сказаў праф. Браніслаў Эпімах-Шыпілла. Падчас пабыту мітрапаліта ў Петраградзе беларускія сэмінарысты і багасловы з Каталіцкае Духоўнае Акадэміі хадзілі да яго, каб патутарыць аб сваім жыцьці і параіцца адносна сваіх плянаў на будучыню. Даўжэйшую гутарку аб беларускім рэлігійным жыцьці меў з ім кс. Вінцэсь Гадлеўскі.

Сваё прабываньне ў Петраградзе мітр. Андрэй выкарыстаў на розныя дэмаршы перад тымчасовым расейскім урадам і адбыў першы сабор з расейскім каталіцкім духавенствам усх. абраду і ўстанавіў расейскі экзархат з а. Леанідам Фёдаравым на чале. Тады-ж дзякуючы мітр. Андрэю была адноўлена беларуская каталіцкая епархія усх. абраду ў Менску, але час не дазволіў назначыць туды кіраўніка.

Далейшыя палітычныя падзеі і падзел Беларусі падобна як і падзел Украіны між Савецкім Саюзам і Польшчаю зьнішчылі ўсе пачынаньні мітр. Андрэя. Расейскага экзарха арыштавалі бальшавікі, а Луцкую епархію, якую мітрапаліт аднавіў у 1914 г., зьнішчылі палякі, юрысдыкцыя мітрапаліта была абмяжована толькі да Галіцыі. У

сваёй рэлігійнай і грамадзкай дзейнасьці ён меў ад польскіх дзяржаўных кіраўнікоў нязьлічаныя цяжкасьці і варожае супрацьдзеяньне ўключна да арыштаў (1919-1920 і 1923 гадох) і канфіскатаў пастырскіх лістоў (1938 г.).

Прыязныя адносіны мітр. Андрэя да беларускага народу аставаліся ўвесь час моцнымі і шчырымі ды выяўляліся заўсёды, калі толькі да гэтага здаралася нагода. Пасьля сьмерці Івана Луцкевіча прыязкую перапіску з мітрапалітам прадаўжалі Антон Луцкевіч і а. Ул. Талочка. Дзьверы Гр. каталіцкае Багаслоўскае Акадэміі ў Львове былі заўсёды адчынены для беларусаў. Нажаль толькі двох беларусаў выкарыстала гэтую магчымасьць студыяў, бо адтуль было вельмі цяжка вярнуцца на працу ў беларускія парахвіі. Аднак пры добрай волі самых кандыдатаў мітрапаліт даваў стыпэндыі яшчэ на дадатковыя студыі ў Іннсбрук і гэта значна абляѓчала магчымасьць знайсьці працу ў беларускіх парахвіях.

У часе другое сусьветнае вайны, калі Зах. Беларусь і Зах. Украіна знайшліся ў складзе Савецкага Саюзу, мітр. Шэптыцкі, не зважаючы на ніякія небясьпекі значна пашырае поле свае дзейнасьці. Ён уважае, што настаў адпаведны мамэнт, каб выкарыстаць свае паўнамоцтвы, што іх атрымаў ад папы Пія Х 18 лютага 1908 г. і ў найбольшым сакрэце аднаўляе каталіцкі экзархат усх. абраду для Расеі і стварае новыя экзархаты для: Беларусі, Вял. Украіны і Валыні. Нованазначаныя экзархі адбылі свой першы сынод 18-19 верасьня 1940 г. у прысутнасьці мітрапаліта, а другі сынод 13-16 чэрвеня 1941 г. адбылі самі. Усе назначэньні мітр. Шэптыцкага папа Пій XII пацьвердзіў 22 лістапада 1942 г. і адначасна прыняў пастанову, што калі будзе магчыма, дык назначыць для экзархаў апостальськага дэлегата. Гэткая пастанова Сьвяцейшага Айца была выклікана тым, што на пачатку 1942 г. украінскі экзарх выйшаў з укрыцьця, прыехаў у Кіеў ды распачаў там сваю дзейнасьць. Сьледам за ім у сакавіку таго-ж году выйшаў з укрыцьця і беларускі экзарх а. Антон Неманцэвіч. Аднак дзейнасьць гэтых экзархаў трывала вельмі каратка; летам таго-ж году украінскі экзарх пад назістоўскімі пагрозамі мусіў сьпешна выехаць з Кіева, а беларускі экзарх быў арыштаваны і закатаваны назістамі.

Далейшая ваенная бура на некаторы час зусім перарвала лучнасьць мітр. Шэптыцкага з Беларусьсю і яшчэ ня ўсьпела закончыцца вайна, як надыйшла сумная вестка, што 1-га лістапада 1944 г. адыйшоў ад нас на векі шчыры прыяцель беларускага народу і нястомны змагар за аб'еднаньне Цэрквяў мітр. Андрэй Шэптыцкі.

Сёньняшнія валадары Украіны і Беларусі, вынішчаючы і ачарніваючы ўсё, што было найбольш вартаснае і сьветлае ў гісторыі гэтых суседніх народаў, імкнуцца зьнішчыць дарэшты працу вялікага мітрапаліта. Аднак усе іхныя стараньні ў гэтым кірунку дарэмныя; і хто ведае магчыма супраць свае волі іхняя праца можа мець вынікі зусім адваротныя да тых, якія яны маюць на ўвеце, бо чым глыбей яны затоптваюць зерне праўды, якое сеяў мітр. Шэптыцкі з непахіснаю вераю ў шчырых сэрцах народных масаў, тым глыбей яно закарэніцца і прыйдзе час, калі вялікія і сьвятыя ідэі мітр. Андрэя Шэптыцкага і ўся ягоная ахвярная праца закрасуе прыгожым цьветам і прынясе багаты ўраджай на ўсім тым абшары, які ягоная праца абымала.

**а. Л. Рымар**

# Пад знакам „рускае і польскае веры“

**ПРАЦЯГ 4-ы**

## НАСТУП СУПРАЦЬ УСХОДНЕКАТАЛІЦКАЕ ЦАРКВЫ

Вынікі няпрыхільных адносінаў палякаў да каталіцызму ўсх. абраду былі вельмі цяжкая і для рэлігійнага і для дзяржаўнага жыцьця беларускага народу. Польскія дзяржаўныя дзеячы, убачыўшы, што Усходнекаталіцкая Царква ня будзе служыць іхным дэнэцыяналізацыйным плянам, стараліся ўвесь час яе аслабіць і панізіць, каб праз гэта адвуярнуць ад яе вернікаў ды насупраць забаронам Апостальскага Пасаду, магчы іх лягчэй перацягаць на лацінскі абрад і ў далейшым палянізаваць. Палітыка аслабленьня Усходнекаталіцкае Царквы (Вуніі) значна аблягчыла пазьнейшую расейскую акцыю зьнішчэньня гэтае Царквы.

Аднак варожасьць палякаў да старое Вуніі, хоць няраз мела даволі вострыя формы, ня прымала формы прасьледаваньня і дзеля гэтага, не зважаючы на ўсякія цяжкасьці, беларускі народ у сваёй аграмаднай большасьці ўспрыняў яе і стараўся захаваць як азнаку свае самабытнасьці. Гэта асабліва ясна выявілася тады, калі беларускія магнаты, вяртаючыся з пратэстантызму, пераходзілі ў каталіцызм лацінскага абраду і паддаліся палянізацыі , калі ў дзяржаўным і культурным жыцьці беларускага народу настаў пэрыяд заняпаду, тады адзінаю арганізацыйнаю плятформаю, дзе яшчэ захоўваліся азнакі бела-

рускае самабытнасьці, была толькі Усходнекаталіцкая Царква. Вось дзеля гэтага на яе і накіроўвалі найбольш вострыя атакі ўсе тыя, хто плянаваў поўнае зьнішчэньне беларускага народу.

Аб фактах няпрыязных адносінаў польскіх дзеячоў да Вуніі ўжо ўспаміналася перш, тут толькі дадаткова неабходна сьцьвердзіць, што бальшыня польскіх гісторыкаў прызнае гэтыя факты. Нямала аб гэтым падаў вестак ужо ўспамінаны кс. біск. Лікоўскі, не маўчалі аб гэтым і пазьнейшыя гісторыкі, як Галецкі (97), Лявіцкі (98), Коссоўскі (99) і інш. Хоць такое прызнаньне ў значнай ступені было выклікана ўласнымі перажываньнямі няволі, але ўсё-ж яно да некаторае ступені рэкампэнзавала ўчыненую калісь крыўду.

Затое расейскія гісторыкі амаль аднагодна да сёньняшняга дня амаль ні ў чым не зьмяняюць свайго крайне варожага становішча адносна Вуніі, пры тым шматлікія факты яны фальшуюць, а шматлікія няпрыемныя для іх факты проста праманоўчваюць. Такі тэндэнцыйны падыход да нашае агульнае гісторыі, і да гісторыі нашае Царквы ў асаблівасьці, падобна як і да гісторыі Украіны, вельмі стары, але бадай найбольш дзейна да яго распаўсюджаньня прычынілася славутая калісь «Исторія Русов». Зьявілася яна на пачатку XIX ст. Аўтарства яе некаторы час памылкова прыпісвалася магілёўскаму праваслаўнаму япіскапу Юраму Каніскаму (1755-1795).
Нядаўна ведамы дасьледнік украінскае гісторыі праф. Башчак прысьвяціў спэцыяльную студыю «Исторіи Русов». Ён разабраў сказ за сказам тае «Гісторыі» і з усёю яснасьцю выказаў, што ананімны аўтар таго твору (Васіль Полетыка) напісаў «ня гісторыю, але гістарычны раман, у якім уява ня ведае граніцаў» (100). Нажаль якраз з тае фантастычнае і варожае да каталіцызму «Гісторыі» чэрпалі сваё натхненьне расейскія царкоўныя гісторыкі Бантыш-Каменскі, Кояловіч, Чыстовіч і інш., як таксама шматлікія паэты. Расейская цэнзура ніякіх кнігаў у абароне Вуніі не дазваляла, дык ня дзіва, што гістарычны фальш паволі ўплываў на фармаваньне варожых адносінаў да Вуніі. Дзеля гэтага нават сёньня пісаньне ў абароне нашае роднае царкоўнае гісторыі спалучана з рыскам, аднак нельга астаўляць далей незакраненым дагэтулешняга стану рэчаў.

97. Halecki Oskar. U zrodel polskich uprzedzen wobec akcji unijnej. «Oriens» R. I. zesz. I. Krakow 1933 star. 8 — 10.

98. Lewicki Kazimierz. Sprawa unji Kosciola Wschodniego z Rzymskim w polityce dawnej Rzeczypospolitej, «Sprawy narodowosciowe». Warszawa 1933, t. VII.

99. Kossowski A. Blaski i cienie unii koscielnej w Polsce w XVII — XVIII w. w swietle zrodel archiwalnych. Lublin 1939.

100. Elie Borschak. La légende historique de l'Ukraine. Istoria Rusov. Paris 1949, star. 180.

Варожае настаўленьне расейскае ўлады да Вуніі мае глыбокія карані. Ідэя Вуніі пярэчыць істотным спосабам вельмі моднай калісь і ня выжытай яшчэ з моды сёньня ідэі «Масква — трэці Рым». Вось чаму з боку Масквы рабіліся ўсякія інтрыгі супраць Вуніі. А рабіць іх было ня цяжка ў меру таго, як дзякуючы анархіі слабела Рэчыпаспалітая і расейскія войскі гаспадарылі на яе абшарах, як у сябе ўдома. Калі былі выбары апошняга караля для Рэчыпаспалітае, дык расейскія войскі стаялі пад Варшаваю і быў выбраны стаўленьнік царыцы Кацярыны II.

Афіцыяльныя адносіны расейскае ўлады да Вуніі азначаліся крайняю двудушнасьцю. Адразу пасьля першага падзелу Рэчыпаспалітае ў 1772 г., калі у межах Расейскае імпэрыі знайшлася паважная частка Полацкае ўсходнекаталіцкае епархіі, расейская ўлада ў асобе царыцы Кацярыны II афіцыяльна забавязалася забясьпечыць рэлігіі свабоду для каталікоў абодвых абрадаў і ў тойжа час рабіліся падступныя мерапрыемствы для зьнішчэньня каталіцызму ўсходняга абраду (101). За часоў панаваньня Кацярыны II вяліся даволі ажыўленыя дыплёматычныя перагаворы расейскага ўраду з Апостальскім Пасадам; нядаўна а. Руэдэ-Журнэль выдаў чатыры томы важнейшых дакумэнтаў з тых перагавораў (102), а з другога боку наступ на Вунію завострываўся з дня-надзень (103). Нібыта ў імя свабоды рэлігіі зьявіліліся ў 1780 г. дэкрэты, што могуць існаваць толькі тыя парахвіі, да якіх належыць найменш 100 сем'яў, меншыя парахвіі мелі далучацца да суседніх; калі з нейкіх прычынаў неставала параха ў вуніяцкіх парахвіях, дык вернікі перш чым атрымаць новага параха мусілі выказацца перад «надзейным чалавекам» расейскага гэнэрал-губэрнатара, ці яны хочуць вуніяцкага, ці праваслаўнага параха (104). Гэтыя законы давалі расейскім чыноўнікам упраўненую магчымасьць умешвацца ў рэлігійныя справы бяз ніякае адказнасьці за надужыцьцё сваё ўлады на карысьць «дзяржаўнае веры».

Пасьля другога і трэцяга падзелу Рэчыпаспалітае, калі амаль уся Беларусь знайшлася ў межах Расейскае імпэрыі, супрацьвуніяцкі наступ прыняў такія застрашаючыя формы, што здавалася Вуніі паграджаў блізкі канец. За гады 1772-1796

101. Записка архіепископа Евгенія Булгариса о лучшемъ способѣ возсоединенія уніатовъ съ православною церковью. «Христіанское Чтеніе», С.-Петербургъ. Іюль 1887, стар. 19-93.

102. M. J. Rouet de Journel S. J. Nonciatures de Russie d'aprés les documents autentiques. Città del Vaticano 1922 — 1952.

103. Maciej Loret. Kosciol Katolicki a Katarzyna II, Krakow — Warszawa 1910.

104. Maciej Loret. Op. cit.: Горючко П., Изъ исторіи возсоединенія уніатовъ въ Бѣлоруссіи 1795-1805 годовъ. «Труды Кіев. Дух. Акад.», 1902.

Каталіцкая Царква абодвых абрадаў на Беларусі і Валыні страціла 8 мільёнаў вернікаў, 9.316 парахвіяў, 145 базыльянскіх манастыроў (105). Сьмерць Кацарыны II у 1796 г. палажэньне зьмяніла на лепшае.

За часоў панаваньня цароў Паўла I (1796-1801) і Аляксандра I (1801-1825) Усходнекаталіцкая Царква перажывала параўнаўчы супакой і нават, не зважаючы на забарону пераходу з праваслаўя на іншыя веравызнаньні, некаторыя парахвіі змаглі вярнуцца ў каталіцызм, але пры гэтым шматлікія з іх адразу пераходзілі на лацінскі абрад, спадзяючыся, што такім чынам ў будучыні забясьпечаць сябе ад новых навяртаньняў на праваслаўе.

Ад калі на царскім пасадзе сеў Мікалай I, хутка адноўлена наступ супраць Усходнекаталіцкае Царквы і быў запраектаваны тайны плян яе зьнішчэньня (106). Палажэньне станавілася грозным, бо гэтая Царква перажыўшы прасьледаваньне за часоў Кацярыны II ня была шматлюднаю; яе стан у ліках выглядаў так:

| Гады | Парахвіі | Сьвятары | Манастыры | Вернікі |
|---|---|---|---|---|
| 1804 | 1.388 | 1.681 | 91 | 1.398.478 |
| 1825 | 1.466 | 1.985 | 78 | 1.427.570 |
| 1834 | 1.339 | 2.006 | 42 | 1.504.281 |

Пачынаючы ад 1826 г. з царскае канцыляры сыпаліся, як з мяшка, розныя дэкрэты і ўказы з штораз больш грозным зьместам: У лютым 1826 г. забаранялася падчас фэстаў прадаваць на рынках вуніяцкія кнігі; 9. X. 1827 г. заплянована сакрэтнае мерапрыемства для паступовага пераводу вуніятаў у праваслаўе; 22. IУ. 1828 г. разьдзелена зусім усходнекаталіцкую адміністрацыю ад лацінскае; у тым-жа годзе з 4-х вуніяцкіх епархіяў утворана толькі дзьве і пры гэтым абсаджана іх япіскапамі, якія ўжо далі згоду на пераход у праваслаўе; 10. IX. 1830 г. адноўлена забарону пераходу з праваслаўя ў каталіцызм і пабольшана кары за такі пераход; 19. VII. 1831 г. зьявіўся ўказ аб камасаваньні і закрываньні каталіцкіх манастыроў у 7-і заходніх губэрніях, у наступным годзе 17. VII касаваліся агулам усе базыльянскія манастыры і касаваліся вуніяцкія духоўныя школы — вучні з іх мелі вучыцца ў праваслаўных установах. У 1832 г. распачалася шырокая акцыя зьбіраньня і паленьня старых вуніяцкіх служэбнікаў і замене іх праваслаўнымі маскоўскага выданьня. У Наваградку 2. IV. 1834 г. група вуніяцкіх сьвятароў у ліку 56 падала на рукі яп. Семашка пратэст супраць такое замены. Усе яны за сваю адвагу па загаду цара мусілі адпакутаваць па году ў манстырскіх турмах і хто пасьля гэтага яшчэ адмаўляўся прымаць маскоўскія службэнікі падлягаў далейшым пакараньням (107). Пад націскам цара 7. 2. 1834 г. Вуніяцкая Калегія выдала забарону друкаваць вуніяцкія кнігі і пастанавіла паступова замяніць усе вуніяцкія службэнікі сынадальнымі маскоўскімі. У 1835 г. утворана Сакрэтную Камісію для скасаваньня Вуніі. Ад 1937 г. зачалася ліхаманкавая падрыхтоўка для абвешчаньня акту зьнішчэньня Вуніі; уздоўж і ўпоперак Беларусі езьдзіў Семашко з сваімі агэнтамі і зьбіраў подпісы ў сьвятароў. Пры гэтым супраць тых, што адмаўляліся даць подпіс на згоду аб гатоўнасьці пераходу ў праваслаўе, акрамя застрашваньня ўжываліся розныя спосабы пакараньня — найчасьцей манастырскія турмы і ссылкі.

Гэта сухое храналягічнае пералічэньне супрацьвуніяцкіх пастановаў і мерапрыемстваў, але колькі за кожнаю з іх рабілася гвалтаў, колькі прыносіла цярпеньня беларускаму народу, толькі Бог адзін ведае. Самыя вуніяты ня мелі найменшага права сказаць нават і слова ў сваёй абароне. Расейская імпэрыя — гэта не Рычыпаспалітая, дзе праваслаўныя, калі ўважалі, што ім дзеецца крыўда маглі выдаваць кнігі і брашуры ў сваёй абароне, выгалошваць ў сойме і сэнаце прамовы абвінавачваючы каталікоў. У Расейскай імпэрыі вуніяты ня мелі ані права, ані магчымасьці падаць нават вестку ў вольным сьвеце аб сваім цярпеньні. Нават у Рым даходзілі толькі афіцыяльныя акты аб супрацькаталіцкіх захадах. Аб тым-жа, што дзеелася ў паасобных парахвіях вестак даходзіла вельмі мала, як гэта відаць з пазьнейшае прамовы папы Рыгора XVI і выстаўкі дакумантаў (108).

Акцыя зьбіраньня подпісаў трывала даволі доўга, бо вялася індывідуальным спосабам, каб праз гэта можна было лягчэй «узьдзейнічаць» на вуніяцкіх сьвятароў. І бедныя сьвятары, застрашаныя жалюгоднаю доляю тых, што адмовіліся даць подпіс адступства, зьвязаныя сям'ёю і да таго ўсяго ня маючы ніадкуль ніякае падтрымкі. апынуўшыся сам-на-сам з сваім япіскапам-зраднікам, у вялікай колькасьці заломліваліся і давалі «дабравольна» вымаганы ад іх подпіс. Паводля афіцыяльных даных самога Семашкі назьбірана подпісаў ад 1243 чавалек, але паводля тых-жа

105. (Theiner A.). Vicissitudes de l'Eglise Catholique des deux rites en Pologne et en Russie, par un prêtre de la congregation de l'Oratoire, précédé d'un avant-propos par le comte de Montalambert, Paris 1843, T. I. star. 215.

106. P. Martinov S. J. Le plan d'abolition de l'Eglise greque-unie. «Etudes religieuses» Paris 1873.

107. Іосиф Семашко, Митрополитъ Литовскій. Записки, Т. I. СПБ., 1883, стар. 74-80.

108. Allocuzione della Santità di... Gregorio P. P. XVI... Seguita da una Esposizione corredata di documenti sulle incessanti cure della stessa S. S. a riparo dei gravi mali da cui è afflitta la Religione Cattolica negli J. e R. Dominii di Russia e Polonia. Roma 1842.

даных 593 вуніяцкіх сьвятароў, не зважаючы на ніякія пагрозы, на адрэз адмовіліся даць подпіс і пераходзіць у праваславіе (109). Усіх гэтых адважных сьвятароў парассылана ў манастырскія тырмы, часткава ў самай Беларусі, як Бытэнь, Журовічы, але большую частку выслана ў глыб Расеі. у Курск, Суздаль, а частка павандравала ў Сібір. Агулам тады выслана з Беларусі і Украіны 160 сьвятароў.

Так падрыхтоўваўся грунт для абвешчаньня акту скасаваньня Вуніі. Калі прыняць пад увагу папярэднія мерапрыемствы, дык гэтая падрыхтоўка трывала амаль 50 гадоў і за гэты час прывязаньне беларускага народу да свае веры нічуць ня зьменшылася, дзеля гэтага калі набліжаўся час скасаваньня Вуніі Сакрэтны Камітэт для Зьнішчэньня Вуніі паважна баяўся выбуху бунтаў і даручыў гэнэрал-губэрнатару Долгорукаву выклікаць на Беларусь больш войска (110).

У такіх абставінах Ёсіф Семашко і ягоныя супрацоўнікі, што кіравалі Усходнекаталіцкаю Царквою, зьехаліся ў Полацку 12 лютага 1839 г. і паслалі цару Мікалаю афіцыяльную заяву аб сваім жаданьні прыяднацца да праваславія. Цар заяву «ласкава» прыняў, але абвешчаньне гэтага акту адбывалася паступова, бо дзяржаўныя і рэлігійныя ўлады спадзяваліся, што гэта можа выклікаць бунты (111). Каб прадухіліць бунты на Беларусі зьявіліся шматлікія ваенныя адзьдзелы. У Віцебск 12. III. 1839 г. зьявіўся 29-ты полк казакоў і адразу быў разьмешчаны ў найбольш падазронных вёсках Віцебшчыны (112). У іншых ваколіцах дзеялася тое самае.

Апісваючы скасаваньне Вуніі на Беларусі, праф. Шабацін ставіць пытаньне, якое звычайна расейскія гісторыкі стараюцца або зусім абыходзіць, або пераносіць у іншую плошчу: «Ці былі рэпрэсіі адносна вуніяцкіх сьвятароў, якія супраціўляліся пераходзіць на праваславіе?» і дае такі адказ: «Так, былі. І рабілі іх і Скрыпіцын (спэцыяльны пасланьнік на Беларусь Сьвяцейшага Сыноду. Увага Л. Г.) і Ёсіф Семашко і дзяржаўныя ўлады на запрос сынадальнае обэр-пракуратуры. Расейская Царква такіх фактаў не хавала. Рабіліся яны ў выпадках, калі паводзіны пакараных выразна выходзілі за межы звычайнае адмовы ад прыяднаньня да Праваславія; на сваім мейсцы аб гэтым скажам» (113).

Нажаль Шабацін ня выканаў свае абяцанкі і аб прасьледаваньні нічога не сказаў. Да таго ягонае цьверджаньне быццам Расейская Царква не хавала фактаў рэпрэсіяў, паважна разьмінаецца з праўдаю. Калісь было зьявілася некалькі большых расейскіх публікацыяў аб скасаваньні Вуніі, але ў іх аб рэпрэсіях гаварылася быццам аб мерапрыемствах, якія мелі на мэце забясьпечыць свабодны пераход да праваславія (114). Не бракавала публікацыяў і з звычайнаю хлусьнёю, напрыклад Батюшкоў кажа, што на Беларусі было ўсяго 15 упорных вуніяцкіх сьвятароў, але і яны, калі «былі сасланыя ў вялікарасейскія епархіі, дык большая частка з іх пакаялася і была вернена дамоў» (115). Бальшавікі ў сваёй супрацькаталіцкай літаратуры агулам прамоўчваюць аб прасьледаваньні вуніятаў (116), бо самі прасьледуюць яшчэ горш. А ў расейскіх зарубежным публікацыях пераважна запярэчваюць існаваньня прасьледаваньня. Напрыклад Нікалаеў бязьлітасна цьвердзіць, што Вунія «развалілася пры першым сутыку з праваславіем (117). Гэта крайняе засьляпленьне, у якім чалавек ня хоча бачыць змаганьня, што трывала 50 гадоў.

Усе мерапрыемствы супраць усходнекаталіцкае Царквы расейская ўлада старалася праводзіць так, каб аб іх за межамі Расеі ведалі якнайменш і пры тым стварала такія абставіны, каб нават тыя весткі, што прасочваліся за граніцу, ня лішне разгалошваліся. Калі нішчылася Усходнекаталіцкая Царква, дык Заходнекаталіцкая на абшары Рассейскае імпэрыі прадаўжала існаваць далей і нават пабольшыла лік сваіх вернікаў, але і над ею заўсёды вісела пагроза, што і на яе можа абрушыцца гнеў цара. Дзеля гэтага ў Рыме трымаліся тактыкі асьцярожнасьці. Нават прамову папы Рыгора XVI з 22. XI. 1839 аб прасьледаваньні і скасаваньні Вуніі абвешчана ў рымскай прэсе ў скарочанай форме, апускаючы ўсё, што адносілася да цара. Як потым выявілася, гэта толькі раззухвальвала цара Мікалая I. Ён, даве-

---

109. Іосиф Семашко, Митрополит Литовскій. Записки, Т. I. стар. 119.
110. С. П. Мельгунов. Из исторіи религіозно-общественных движеній в Россіи в XIX в., 1919, стар. 89; Проф. И. Шабатин. Из истории воссоединения белорусских униатов, «Журнал Московской Патриархии», Нр. 11, 1951, ст. 53.
111. М. Я. Морошкин. Возсоединеніе Уніи. 1872, ст. 91; И. Семашко. Записки, Т. I., ст. 132.
112. **Adrien Boudou S. J. Le Saint-Siège et la Russie, T. I Paris 1922, star. 227.; Stcherbatov. Le Feld-maréchal prince Paskievitsch, sa vie politique et militaire, Pbg. 1898, T. V. star. 158.**
113. Проф. И. Шабатин. Из истории воссоединения белорусских униатов. «Журнал Московской Патриархии», Нр. 11, 1951, стар. 56.
114. Больш абшырныя з іх: Кояловичъ М., Исторія возсоединенія Западно-русскихъ Уніатовъ старых времен, Спб. 1873; Морошкинъ М., Возсоединеніе Уніи, 1873; Шавельскій Г., прот. Послѣднее возсоединеніе съ Православной Церковью уніатовъ Бѣлорускои епархіи (1833-1839). СПб. 1910.
115. П. Н. Батюшковъ. Бѣлоруссія и Литва. С.-Петербургъ, 1890, стар. 362.
116. Як прыклад могуць служыць кнігі: Д. Е. Михневич, Очерки из истории католической реакции (Иезуиты). Москва, 1953; М. М. Шейнман. Краткий очерк истории папства, Москва 1952.
117. К. Н. Николаев, Восточный обряд. Париж 1950, стар. 99.

даўшыся аб асьцярожнасьці Ватыкану, з радасьці заціраў рукі і казаў галоўнаму начальніку паліцыі Бэкэндорфу: «Ну вось, адна добрая справа скончана, цяпер чарга на лаціньнікаў!» (118).

Аднак пакуль брацца за лаціньнікаў, трэба было перш да канца зьліквідаваць усходнікаў.

---

118. Adrien Boudou S. J. Le Saint-Siège et la Russie. T. I. Paris 1922. s. 226.

Міма афіцыяльнага аскасаваньня Вуніі ў 1839 г. на абшары Беларусі яшчэ было сотні вёсак, якія на адрэз адмаўляліся прымаць праваславіе нават тады, калі ў іхныя цэрквы прысылаліся праваслаўныя расейскія бацюшкі. Такія вёскі абвяшчаліся «упорствующими» і супраць іх вялося змаганьне з усёю жарстокасьцю, на якую была здольная расейская жандармерыя.

(Працяг будзе).

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## НА СЛАВУ ВАЛАДАРКІ НЕБА І ЗЯМЛІ

Таму, што гэты нумар часапісу выходзіць з вялікім апазьненьнем, і да гэтага часу ўжо зьявіліся ў «Бацькаўшчыне» і «Зьнічу» даволі вялікія справаздачы аб рымскіх урачыстасьцях, дык абмяжуемся тут кароткаю інфармацыяю аб іх.

Марыйскі 1954 г. Год суправаджаўся ў Рыме і ўва ўсім каталіцкім сьвеце шматлікімі ўрачыстасьцямі, але найбольшымі і найважнейшымі з іх былі тыя, што адбываліся ў Рыме між 24 кастрычніка і 1-га лістапада. Тады адбыліся ў Рыме Міжнародныя Марыялёгічны і Марыйскі Кангрэсы ў якіх удзельнічалі найвыдатнейшыя багасловы з усяго вольнага сьвету і мелі свае даклады на марыйскія тэмы. Праграма Марыялёгічнага Кангрэсу была надзвычайна багатая. Даклады адбываліся ажні ў 34 сэкцыях. Між імі была сэкцыя прасьледаванае Царквы, у якой удзельнічалі 19 народаў, у тым ліку і беларусы. У рамах гэтае сэкцыі 26 кастрычніка кс. др. П. Татарыновіч прачытаў рэфэрат «Слаўны памятнік беларускае старапабожнасьці да Найсьвяцейшае Дзевы».

Адначасна з дакладамі аб Багародзіцы ўслаўлялі Яе на велічных канцэртах. Для беларусаў незабыўным будзе канцэрт, што адбыўся ў чэсьць Прасьледаванае Царквы вечарам 30 кастрычніка. Тады пасьля прамоваў высокіх царкоўных дастойнікаў выступалі хоры з літургічнымі сьпевамі. Наступна былі салёвыя нумары; выступалі толькі: баўгарка, беларус — Пятро Конюх і кітайцы — сужонкі Ву. Усе яны з вялікім майстэрствам выконвалі свае нумары, але бадайшто найбольшае ўражэньне зрабіў магутны бас Пётры Конюха. Заканчэньне канцэрту перанесла слухачоў ў нябесныя вышыні — такое ўражэньне пераживалі слухачы і глядачы агледаючы інсцэнізацыю інвакацыяў Лёрэтанскае Літаніі: Каралева Ангелаў, Каралева Дзеваў, Каралева Мучанікаў, што яе выканалі вучаніцы каталіцкіх школаў пад кіраўніцтвам праф. Грацыя Коста.

На працягу ўсяго тыдня штораніцы кожная нацыянальная група паасобку і супольна з іншымі ладзілі ўрачыстыя багаслужэньні. Беларуская група распачала свае рымскія багаслужэньні 24 кастрычніка Службаю Божаю ў базыліцы сьв. Пятра на гробе сьв. папы Пія X-га — адправіў яе а. Уладзімер Тарасэвіч. З іншых багаслужэньняў больш урачысты характар мелі: Служба Божая перад іконаю Жыровіцкае Багародзіцы ў царкве айцоў Базыльянаў, яе адправіў 27. X. а. Леў Гарошка з дзяканам Кастусём Маскалікам і ўрачыстая архірэйская Служба Божая ў базыліцы Сьв. Марыі Большае, якую адправіў 31 кастрычніка Я. Э. Іван Бучка ў саслужэньні беларускага, грузінскага, расейскага, румынскага і украінскіх сьвятароў і ў прысутнасьці шматлікіх высокіх царкоўных дастойнікаў.

У нядзелю вечарам 31 кастрычніка адбылася велічная працэсія пераняясеньня стараветнае цудатворнае іконы Salus Populi Romani, (якая вельмі падобная да нашае Смаленскае іконы) з базылікі Сьв. Марыі Большае ў базыліку сьв. Пятра. Толькі ў Рыме — цэнтры Сусьветнае Царквы — магчымы гэткія працэсіі. У ёй удзельнічалі групы ад усіх італьянскіх дыяцэзіяў і групы прадстаўнікоў амаль ад усіх народаў сьвету з сваімі сьцягамі — усіх сьцягоў было каля 480. Беларуская група ў працэсіі была даволі колькасная, бо да беларусаў далучыўся адзін сіраціне́ц, дзе ёсьць ў вялікай пашане копія іконы Жыровіцкае Богамаці. Доўга трывала працэсія, але пасьля яе сканчэньня вернікі чамусьці не сьпяшаліся пакідаць перапоўненае плошчы перад базылікай сьв. Пятра.

Назаўтра 1-га лістапада базыліка сьв. Пятра напоўнілася па берагі. Пасьля Службы Божае гучныя воплескі і овацыі вернікаў паводля рымскага звычаю азначалі, што Сьвяцейшы Айцец ужо ў базыліцы, ягонае аблічча аскета зьзяе дабратою і нявымоўнаю любоўю. Неяк сама напрошвалася думка — вось непамыльныя знакі, што тут Хрыстос даручыў дачаснае кіраўніцтва Свае Царквы. Пасьля кароткае цэрэмоніі ўшанаваньня кардыналамі Сьвяцейшага Айца, ён абвяшчае Марыю Валадаркай усіх устаноў, назначае сьвята на Яе чэсьць у дзень 31 траўня і ўканцы каранue ікону Salus Populi Romani. Хор сьпявае «Цябе Бога хвалім», Сьвяцейшы Айцец,



**Удзельнікі Тыдня Студыяў БАКА «Рунь» і Міжнароднага Марыялягічнага Кангрэсу ў Рыме**

багасловячы вернікаў, апушчае базыліку і ўсьлед за ім вернікі выходзяць з базылікі, выносячы ў сэрцы якісьці таёмны сьветач веры і разносяць яго па ўсіх закутках сьвету.

## УЛАДА ЦАРКВЫ НЕ АБМЕЖАВАНАЯ ТОЛЬКІ ДА РЭЛІГІЙНЫЙ РЭЧАЎ

Прыймаючы на спэцыяльнай аўдыенцыі 3-га лістапада кардыналаў, архібіскупаў і біскупаў, Сьвяцейшы Айцец Пій XII выступіў востра супраць тых сьвецкіх і рэлігійных дзеячоў, якія хацелі-б абмяжаваць дзейнасьць Царквы выключна да рэлігійных справаў. Ён з націскам заявіў, што акрамя чыста рэлігійных справаў да рэсорсу Царквы належаць так-жа прыродныя правы, іх паясьненьне і прыстасаваньне, а так-жа ўсё тое, што датычыць маралі.

## ЗАКРЫЦЬЦЁ МАРЫЙСКАГА ГОДУ

Урачыстае закрыцьцё Марыйскага Году ў Рыме адбылося 8-га сьнежня 1954 г. Здароўе не дазволіла Сьвяцейшаму Айцу асабіста выканаць гэты абрад. Урачыстую Службу Божую на папскім аўтары ў базыліцы Сьвятое Марыі Большае адправіў Я. Эм. Кардынал Мікара. А папалудні ў той-жа базыліцы сабраліся вернікі і духавенства на чале з Я. Эм. Кардыналам Тіссэранам дэканам кардынальскае калегіі і пасьля кароткага багаслужэньня на заканчэньне Марыйскага Году, выслухалі праз радыё прамову Сьвяцейшага Айца Пія. XII.

## МОНС. МОНТІНІ — МІЛЯНСКІМ АРХІБІСКУПАМ

Дагэтулешні просакратар Кангрэгацыі Стану шырокаведамы з свае актыўнае дзейнасьці монс. Монтіні назначаны 3-га лістапада Мілянскім Архібіскупам. Ягонае высьвячэньне адбылося ў базыліцы сьв. Пятра ў Рыме і мела вельмі ўрачысты характар. Сьвяцейшы Айцец, ня могучы быць асабіста прысутным на сьвячэньні, перадаў праз радыё сваё апостольскае багаславенства.

## ТЫДЗЕНЬ КАТАЛІЦКІХ ІНТЭЛЕКТУАЛІСТАЎ

Француськія Тыдні Каталіцкіх Інтэлектуалістаў ужо маюць за сабою паважную традыцыю і карыстаюцца вялікім посьпехам дзякуючы актуальнасьці тых праблемаў, якія яны парушаюць. Сёлетні Тыдзень адбыўся ў Парыжу між 7-15 лістапада і быў прысьвечаны агульнай тэме: «Што ёсьць чалавек?». Глыбокія зьместам даклады найвыдатнейшых францускіх перадавых інтэлектуалістаў заўсёды сьцягвалі поўную салю слухачоў. Такое паважнае зацікаўленьне грамадзтва рэлігійнымі пытаньнямі можна рахаваць суцяшаючым знакам часу.

## МОНС. РЮПП — БІСКУПАМ

Шырокаведамы ў Парыжу і ў Францыі гэнэральны вікары для чужынецкіх місіяў і парахвіяў у Парыжу, а так-жа гэнэральны дырэктар для эміграцыйных справаў і член Высокае Рады для справаў эміграцыі ў Францыі монс. Іван Рюпп назначаны тыт. біскупам Аркі і памоцнікам Архібіскупа Парыжу. Як было павядомлена ў папярэднім нумару нашага часапісу, Я. Эм. Кардынал Фэльтэн назначаны ардынарыем для каталікоў усходняга абраду ў Францыі, цяпер праз назначэньне біскупа памоцніка чужынецкія місіі і парахвіі ў Парыжу атрымалі кананічнае афармленьне свайго асобнага душпастырства для сваіх суродзічаў і таму ня дзіва, што назначанэньне монс. Рюппа біскупам выклікала агульнае задаваленьне ў чужынецкіх кругох.

## У ІЗРАІЛІ ЗЬНІШЧАНА ХРЫСЦІЯНСКУЮ ВЁСКУ

На абшары Ізраіля ўсяго 5 км. ад лібанскае граніцы знайходзілася вёска Кафр-Бірам, заселеная выключна хрысціянамі (620 маронітаў, 50 грэка-каталікаў). У часе ізраільска-арабскае вайны ў 1948 г. адносіны ізраільскае ўлады да насельніцтва тае вёскі спачатку былі добрыя, але хутка цывільная ізраільская ўлада частку жыхароў вёскі запрасіла перасяліцца ў суседнюю вёску, а другую частку жыхароў перасялілі ў Лібан і ад таго часу ніколі жыхаром Кафр-Бірам не дазволена вярнуцца назад. Нядаўна ізраільскія самалёты скінулі на Кафр-Бірам запальваючыя бомбы, і пасьля гэтага, тое чаго ня мог зьнішчыць пажар, зьнішчана дынамітам. Ад калішняе хрысьціянскае вёскі асталіся толькі руіны.

## ПАМЁР Я. Э. РАМАНАЎ

У Баўгарыі, падобна як і ў іншых падсавецкіх краінах, вядзецца бязупынны наступ супраць

Каталіцкае Царквы. Пасьля галоснага суду над Я. Э. Аўгенам Басілкавым ў кастрычніку 1952 г. быў арыштаваны і засуджаны на 20 гадоў Я. Э. Іван Раманаў Апостальскі Вікары ў Сафіі. Нядаўна дайшлі весткі што ён памёр у турме. Дня сьмерці няведама.

### РЭЛІГІЙНЫ КАНФЛІКТ У АРГЭНТЫНЕ

Калі дзе дзяржаўная ўлада знойдзецца ў руках аднае партыі з таталітарным нахілам, дык раней, ці пазьней яе кіраўніцтва пачне прэтэндаваць на непамыльнасьць і тады да канфлікту з царкоўным кіраўніцтвам астаецца толькі адзін крок. Апошнім часам выглядае, што гэты крок зрабіла пэронаўская партыя ў Аргэнтыне. Не зважаючы на тое, што ў Аргэнтыне насельніцтва ў 99% каталіцкае, там распачалася перш вострая кампанія ў прэсе супраць некаторых каталіцкіх кіраўнікоў і арганізацыяў, наступна абвінавачана некаторых біскупаў у падрыхтоўцы апазіцыі да сучаснае ўлады, арыштована некалькі сьвятароў, пазвальняна шматлікіх прафэсароў у каталіцкіх факультэтах, абвешчана права разводу не зважаючы на пратэсты эрархаў. На ўсе атакі пэранізму аргентынскія біскупы адказалі ў супольным пастырскім лісьце 5-XI, заяўляючы, што яны будуць бараніць прынцыпы каталіцкае навукі ўсюды, дзе-б ня былі гэтыя прынцыпы загрожаны.

### ПРЫЗНАНЬНЕ НЕХАЦЯ

Цэнтральны камітэт камуністычнае партыі у СССР апублікаваў у «Праўдзе» 11-га лістапада пастанову «Аб памылках у правядзеньні навукова-атэістычнае прапаганды сярод насельніцтва». Гэтая пастанова тым важная, што яна ясна сьцьвярджае хлусьню дагэтулешніх савецкіх цьверджаньняў аб свабодзе рэлігіі ў СССР. У ёй навыразьней у сьвеце кажацца, што ў бязбожнай прапагандзе на абшары СССР «дапускаюцца зьняважлівыя выпады супраць духавенства і вернікаў», а «ў радзе раёнаў з боку мясцовых арганізацыяў і асобных людзей дапушчаны выпадкі адміністратыўнага ўмяшаньня ў дзейнасьць рэлігійных аб'еднаньняў і груп, а таксама грубых адносінаў да духавенства...».

Некаторая частка прэсы вольнага сьвету гэтае прызнаньне прыняла быццам знак зьмены на лепшае ў адносінах камуністаў да рэлігіі. У сапраўднасьці аднак гэтая пастанова нічога добрага не варожыць, бо ў ёй-жа ўканцы кажацца, што «выпраўленьне памылак, дапушчаных у антырэлігійнай прапагандзе, не павінна прывесьці да аслабленьня навукова-атэістычнае прапаганды, якая зьяўляецца асноўнай часткай камуністычнага выхаваньня працоўных».

У зьвязку з гэтаю пастановаю трэба прыпомніць, што яна ня першая. Ужо неаднойчы пры розных нагодах бальшавікі сьцьвярджалі факт, што яны прасьледуюць рэлігію і што яе гэткім чынам ня могуць зьнішчыць. Такія прызнаньні толькі сьведчаць аб зьмене тактыкі, але ня мэты.

### ПРАСЬЛЕДАВАНЬНЕ Ў КІТАІ ПРАДАЎЖАЕЦЦА

Пасьля выгнаньня з Кітаю ўсіх эўрапэйскіх каталіцкіх місіянароў кітайскі камуністычны ўрад узмоцніў наступ супраць кітайскага каталіцкага духавенства. Арыштована шмат кітайскіх сьвятароў і аб долі большасьці з іх няма ніякіх вестак. Свайго часу была распачата моцная акцыя камуністаў, каб заснаваць незалежную ад Рыму «Кітайскую Каталіцкую Нацыянальную Царкву», але да яе не далучыўся ніводзін сьвятар. Вернікі з прыкладнаю вытрываласьцю не паддаюцца камуністычнай агітацыі і супраціўляюцца ўсякім намовам адступства. Сёлета ў траўні тысячы кітайцаў каталікоў адбывала паломніцтва ў кітайскае Марыйскае места прошчаў Шэ-Сан каля Шанхаю.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### НА МІЖНАРОДНАЙ НІВЕ.

#### Акадэмія ў чэсьць мітр. Андрэя Шэптыцкага

У Вэстмінстэрскай каталіцкай салі ў Лёндане 12 сьнежня адбылася ўрачыстая акадэмія ў чэсьць вялікага украінскага мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага з нагоды дзясятых угодкаў ягонае сьмерці. На праграму злажыліся даклады, дэклямацыі, прамовы і сьпеў солё.

Асноўны даклад аб жыцьці і дзейнасьці Мітрапаліта прачытаў гэнэральны вікары Апостальскага Візітатара Украінцаў для Вялікае Брытаніі а. Аляксандр Маліноўскі, наступна ад імя англьцаў прамаўляў маёр Кірк, ад імя беларусаў — а. Чэслаў Сіповіч, ад палякаў — інж. Сьцібор-Рыльскі.

На акадэміі прысутнічалі Я. Эм. Кардынал Грыффін, монс. Варлёк, прадстаўнікі ўсіх украінскіх арганізацыяў у Англіі і шмат госьцяў ад іншых нацыянальнасьцяў. У сваёй кароткай прамове Кардынал Грыффін параўняў мітрапаліта Шэптыцкага з вялікімі царкоўнымі дастойнікамі апошніх часоў Кардыналам Мэрсье і Кардыналам Фаульгабэрам. Ён так-жа заўважыў, што палякі ня любілі мітр. Шэптыцкага за ягоную дзейнасьць дзеля злучэньня Цэркваў. Кардынал Грыффін адведаў Польшчу пасьля вайны і міма найлепшага

уражэньня, якое ён вынес з гэтых адведзінаў, ён бачыць так-жа і дрэнныя рысы ў дзейнасьці палякаў і не баіцца аб іх гаварыць публічна.

### Трэцяя сэсія ФІТКРЭ

Рада Міжнароднае Фэдэрацыі Хрысьціянскіх Работнікаў Эміграантаў і Уцекачоў (ФІТКРЭ) на сваёй трэцяй сэсіі 18 і 19 сьнежня ў Парыжу, выслухаўшы справаздачу гэнэральнага сакратара, разважала над патрэбаю і магчымсьцю мець сваё прадстаўніцтва ў сындыкальным картэлі краінаў Эўрапэйскага Аб'еднаньня Вугля і Сталі; дамагацца картаў вольнага падарожжа для работнікаў у гэтых краінах, прыстасаваньня Жэнэўскае канвэнцыі адносна праўнага становішча ўцекачоў, разьмеркаваньня фондаў Высокага Камісарыяту Аб'еднаных Нацыяў для ўцекачоў і для арганізацыяў; ролю душпастырства ў сындыкальным русе і інш. Анодсна кожнае з разгляданых справаў былі прынятыя адпаведныя пастановы і перасланыя кампэтэнтным установам. На ўсіх паседжаньнях Рады актыўна ўдзельнічала беларуская дэлегацыя ад Аб'еднаньня Беларускіх Хрысьціянскіх Работнікаў у Францыі.

## БАЦЬКАЎШЧЫНА



**Рынак у Клецку ў 1939 г.**

### Бязбожная прапаганда прадаўжаецца.

Пасьля таго, як ЦК камуністычнае партыі ў Маскве апублікавала пастанову «Аб памылках у правядзеньні навукова-атэістычнае прапаганды сярод насельніцтва» 11 лістапада, на наступны дзень гэтую пастанову перадрукавала менская «Звязда» і іншыя менскія газэты і незабаўна ўва ўсіх беларускіх савецкіх газэтах і часапісах пачалі зьяўляцца артыкулы нібыта больш навуковага бязбожнага характару розных савецкіх «кандыдатаў навук». І так 13-XI у «Звяздзе» зьявіўся артыкул І, Новікава «Аб паходжаньні чалавека», 21-XI М. Рэзьнікава — «Паходжаньне зямлі і плянэт», 26-XI В. Сікорскага — «Як узьнікла рэлігія» і інш. Адначасна Дзярж. Выд. БССР выдала некалькі перакладаў расейскіх бязбожных брашураў.

Характэрна, што ў гэтай бязбожнай кампаніі ад некаторага часу амаль ня сустракаецца слова «бязбожнік». Відавочна яно дзеля свайго грубіянскага зьместу стала нямодным і яго паўсюдна замяняюць словам «атэіст» нібыта менш грубіянскім. Бязбожнікі не заўважваюць, што гэтым самым яны выказваюць асуджэньне сваёй грубіянскай працы.

### Вымоўнае сьведчаньне,

Ад 5-га сьнежня 1954 г. Беларуская Сельска-Гаспадарчая Акадэмія ў Горы-Горках пачала выдаваць шматтыражны тыднёвік (2.500 экз.) для студэнтаў «Советский Студент». Ад студзеня 1955 г. мае выходзіць новы месячнік «Здравоохранение Белоруссии» — Абодва новыя пэрыядычныя выданьні рэдагуюцца выключна парасейску. Гэткім чынам ранейшая маска «сацыялістычнага зьместу і нацыянальнае формы», пад якою хаваўся расейскі шавінізм і імпэрыялізм спадае дазваньня.

## АНГЛІЯ

● На **заканчэньне Марыйскага Году** рэктар Беларускае Каталіцкае Місіі ў Англіі а. Чэслаў адправіў 8-га сьнежня ў капліцы Дому Айцоў Марыянаў у Лёндане урачыстую Службу Божую і пасьля гэтага меў даклад на тэму: «Непарочнае зачацьце Н. Дз, Марыі ў творах усходніх айцоў Царквы». Ня гледзячы на дрэннае надвор'е так на багаслужэньні як і на дакладзе было шмат беларусаў і чужынцоў.

● У капліцы беларускага Марыйскага Дому ў Лёндане ёсьць іконы вялікае мастацкае вартасьці. Нядаўна Беларуская Каталіцкая Місія ў Англіі выдала **рэпрадукцыі трох іконаў у форме паштовак.** У далейшым намечана выданьне яшчэ некалькі такіх паштовак, між якімі будуць: ікона Смаленскае Багародзіцы і ікона Заступнікаў Беларускага Народу. Кожная паштоўка ў Англіі каштуе адзін шылінг і 6 пэнсаў. Купіць іх можна ў а. Чэслава Сіповіча. Ягоны адрас падаены на другой старонцы вокладкі гэтага часапісу,

● **Зборка грошаў на куплю беларускага Дому Айцоў Марыянаў** ужо прынесла 300 фунтаў. Хоць гэта немалая сума, але яна яшчэ далёкая да таго, каб можна было асягнуць намечаную мэту і таму просіцца ўсіх суродзічаў дапамагчы сваімі шчодрымі ахвярамі хутчэй здабыць сталы аседак для беларускага духовага асяродку на эміграцыі.

● На пачатку сьнежня **прэз. М. Абрамчык адведаў Англію** і пры гэтай нагодзе прачытаў даклады ў большых беларускіх ясяродках на актуальныя беларускія тэмы: 11-XII у Лёндане, 12-XII у Бірмінгаме, 18-XII у Брадфордзе, 19-XII у Ман-

чэстэры, дзе якраз таго дня адбылося **высьвячэньне новакупленага Беларускага Дому.**

**АРГЭНТЫНА.**

**Згуртаваньне Беларускіх Камбатантаў** у Аргэнтыне ладзіла 28-XI акадэмію для ўшанаваньня 34-ых угодкаў Слуцкага Чыну. На праграму акадэміі зложыліся: музыка з дыскаў, рэфэраты і сьпевы вайсковых і патрыятычных песень.

**БЭЛЬГІЯ.**

● З пачаткам новага акадэмічнага году ажывіла сваю працу **Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў Лювэне,** Дня 2-XI адбыўся гадавы сход БСЗ. Справаздача старшыні ўступаючае ўправы Я. Запрудніка была кароткаю, але праробленае працы было шмат. За прызнаньне сход даў уступаючай управе абсалютoрыю з падзякай. У склад новае ўправы выбрана: старшыня — М. Ягаўдзік, заст. старшыні — Т. Цімафейчык, сакратар — М. Галоўка, скарбнік — Я. Жучка, адміністратар — А. Лазанаў,

● Сёлета, калі значна зьменшыўся лік беларускіх студэнтаў у Лювэне, выпадае на долю **Саюзу Беларусаў у Бэльгіі** больш як дагэтуль закты візаваць сваю дзейнасьць. Аб гэтым сьвечдыў гадавы Сход СББ, які адбыўсу 24-X ў Лювэне. Справаздача ўступаючай управы і рэфэратаў была вялікая і суцяшаючая, а новавыбраная галоўная ўправа СББ атрымала ў спадку магчыма больш працы, чым ёй намечана на сходзе.

**ГІШПАНІЯ.**

**Канцэрт беларускае песьні і музыкі**

У міжнароднай Калегіі сьв. Якуба ў Мадрыдзе, дзе жывуць студэнты з дзесяці розных нацыянальнасьцяў, беларускія студэнты дня 28 лістапада наладзілі канцэрт беларускае песьні і музыкі з грамафонных дыскаў у выкананьні лювэнскага Беларускага Студэнцкага Ансамблю пад кірнўніцтвам М. Равенскага, беларускіх народных песьняў у выкананьні хору Р. Ширмы і Р. Пуксты і мэлёдыяў беларускіх народных танцаў у выкананьні І. Жыновіча, Вялікая калегіяльная саля была перапоўнена студэнтамі з Калегіі і шматлікімі госьцямі. На абліччы прысутных відаць было і захапленьне ад красы беларускіх мэлёдыяў і зьдзіўленьне ад іх багацьця. Бура воплескаў вымоўна сьведчыла аб агульным задаваленьні канцэртам. Мала хто з прысутных разумеў словы беларускіх песень, але ўсе разумелі мэлёды, бо «яны лёгка даходзяць да сэрца», як гэта трапна азначыў адзін прысутны вэнэзуэлец.

**З. Ш. А.**

● Сёлета пачынаючы ад першага лістапада акруговая ўправа БАЗА адчыніла **школу для дзяцей у Мангатон.** Тымчасам заняткі адбываюцца толькі па суботам ад 10 да 12 гадзіны,

● **Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва** ў Нью Ёрку апошнім часам здабыў вартасны, няведамы дагэтуль, біяграфічны матэрыял пра Алёізу Пашкевічанку-Цётку ад яе мужа Кейрыса.

● **Літаратурная Сэкцыя БІНІМ** 30-га кастрычніка, праслухаўшы ўрывак з новае аповесьці Я. Юхнаўца, дыскутавала аб літаратурных асаблівасьцях пісьменьніка. Падобная дыскусія адбылася 13-XI аб паэзіі Р. Крушыны, а 11-XII адбыўся аўтарскі вечар Майсея Сяднёва.

● Для ўшанаваньня **34-ых угодкаў Слуцкага Чыну** і палеглых змагароў сёлета 28 лістапада ў Нью Ёрку сьвятары БАПЦ адправілі саборную Службу Божую і паніхіду, а папалудні таго дня ў салі Вашынгтон Ірвінг Гай Скул адбылася акадэмія з адпаведным рэфэратам і ўдала выкананаю багатаю мастацкаю часткаю.

● **Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне** ўзбагацілася яшчэ адною новаю ўстановаю: 5 сьнежня ўтворана жаночую сэкцыю гэтае арганізацыі.

● Нью Ёрскі адзьдзел **Згуртаваньня Беларускае Моладзі** зладзіў 6-XI удалы канцэрт-баль.

**ІТАЛІЯ.**

**Тыдзень Студыяў БАКА «Рунь»,**

Сёлетні Тыдзень Студыяў БАКА «Рунь» быў спалучаны з удзелам у Міжнародным Марыйскім Кангрэсе ў Рыме. Асобныя даклады для сяброў «Руні» прачытаў а. Леў Гарошка на тэму «Культ Багародзіцы на Беларусі» і а. др. Чэслаў Сіповіч на тэму «Д-р Францішак Скарына — паклоньнік Багародзіцы». Час між паасобнымі імпрэзамі Марыйскага Кангрэсу і ўрачыстасьцямі сябры «Руні» выкарыстоўвалі для адведваньня Рыму і ягоных багатых рэлігійных і гістарычных памятак.

**Агульны Зьезд БАКА «Рунь».**

Як у папярдніх годох, так і цяпер Беларускае Акадэмічнае Каталіцкае Аб'яднаньне «Рунь», карыстаючы з Тыдня Студыяў зрабіла свой агульны пяты з чаргі Зьезд. Адбыўся ён 27 кастрычніка ў паляцы Сальвіяті. Пасьля выбару прэзыдыі зьезду старшыня ўступаючае ўправы др. В. Рамук зрабіў кароткую справаздачу з дзейнасьці ўправы за мінулы год, а сябры з Англіі, Бэльгіі, Гішпаніі, Нямеччыны і Францыі падалі справаздачы з дзейнасьці сваіх адьдзелаў. Справаздачы значна дапоўніла ажыўленая дыскусія. Даўшы абсалютoрыю ўступаючай управе, выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня — Я. Пазьняк, заст. старшыні — В. Сенкевіч, сакратар — Т. Мазура, скарбнік — Ф. Бартуль. У вольных прапановах намечана вытычныя для пляну працу на йдучы год. Вялікая расьцярушанасьць сяброў «Руні» стварае вельмі паважную перашкоду для працы, аднак добрая воля і Божая помач ёсьць зарукаю, што ў далейшым арганізацыя будзе разьвіваць і паглыбляць сваю дзейнасьць Богу на Славу і Беларусі на карысьць.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.

Directeur : Abbé L. Horosco.

## КАНАДА.

### Парахвія БАПЦ

Стараньнем Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе куплена ў Торонто дом, у якім будзе мясьціцца аседак арганізацыі і ў якім уладжана царкву для прыходу БАПЦ. Парахам царквы назначаны новавысьвячаны а. Міхась Мацукевіч. Для пасьвячаньня царквы прыязджаў у Торонто з ЗША ял. Васілі і хор з Кліўлянду.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Угодкі Слуцкага Чыну.

У зьвязку з адкрыцьцём беларускага адзьдзелу ў радыё «Вызваленьне» і пашырэньнем дзейнасьці Інстытуту для Дасьледаваньня Гісторыі і Культуры СССР, беларуская група ў Мюнхэне значна ўзмоцнілася і для азначэньня 34ых угодкаў Слуцкага Чыну зладжана акадэмію, якое ўжо ад некалькі гадоў ня мела невялікая беларуская група ў Мюнхэне. У царкве на Мозаху а. Ул. Салавей адправіў Службу Божую і сказаў прынагаднае казаньне. Адразу пасьля багаслужэньня адбылася там-жа на Мозаху акадэмія. Праграма была багатая і рознастайная, бо гэтым разам было каму яе ўкладаць і галоўнае, што было каму яе выконваць. Хіба толькі слухачоў на такую праграму было замала. — Расьсяваюцца беларусы ўсё больш па вольным сьвеце, але і такое расьсеяньне не дарэмнае, як ня быў дарэмным Слуцкі чын. Прыйдзе час і закрасуюць прыгожыя кветкі на магілах слуцкіх гэрояў і змогуць вярнуцца верныя сыны Беларусі ў сваю вольную і незалежную бацькаўшчыну.

## ФРАНЦЫЯ.

### Ушанаваньне Слуцкага Чыну.

Для азначэньня 34-ых угодкаў Слуцкага Чыну ў беларускай капліцы ў Парыжу 14 лістапада была адпраўлена Служба Божая з паміnаньнем загінуўшых гэрояў. Па палудні таго-ж дня ў салі Хрысьціянскага Сындыкату адбылася зборка сяброў Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі. Адчыніў яе гэнэральны сакратар АБРФ М. Наумовіч; ён у сваёй кароткай прамове зьвярнуў увагу на значэньне Слуцкага Чыну і перадаў слова прэз. М. Абрамчыку. У сваім зьместоўным дакладзе прэзыдэнт асьветліў коратка асноўныя этапы беларускага вызвольнага змаганьня і далейшай спыніўся на апошніх асягненьнях гэтага змаганьня.

Уканцы зборкі сакратар АБРФ В. Міцкевіч падзяліўся з сябрамі важнейшымі сындыкальнымі навінамі.

## ПРЫСЛАНЫЯ КНІГІ
(Працяг з вокладкі **)

Leo Okinchevich, The Law of the Grand Duchy of Lithuania: Background and Bibliography. New vork 1953, f. 4°, star. 53:
Kvietka Vitan, Lavon Vitan-Dubiejkauski. Da 58 uhodkau naradźeńnia. Vyd. Kryvic. Navuk. Tav-va Prancisa Skaryny. New York 1954, f. 8°, star. 40.
Vaclau Panucevic, Zamojdz i Litva. Roznyja krainy i narody. Tom 1. Chicago 1954, f. 8°, star. 382.
Au service de la famille. Paris 1954, f. 12°, star. 32.
Meletius M. Wojnar OSBM., De regimine Basilianorum Ruthenorum a metropolita Josepho Velamin Rutskyj instauratorum. Vol. I. Ed. 2. Sumptibus PP. Basilianorum Romae 1949, f. 8°, star. 218.
M. M. Solowij OSBM., De reformatione liturgica Heraclii Lisowskyj archiepiscopi Polocensis. Sumptibus PP. Basilianorum, Romae 1950, f. 8°, star. 128.
Biełaruski Kalendar na 1955 hod. Louvain.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»
**апошнім часам прыслалі:**

(Сумы паданы ў францускіх франках) Аб-к К. 300, Баяроўскі М. 490, Белькевіч М. 350, Буката А. 730, д-р Гайдзель (аўстралійская група Паўдз. Валіі) 2.640, д-р Гр-кі Б. 3.500, Гу-эц Г. 1.500, Дамінік І. 980, Дударэвіч С. 1.000, Елешэвіч П, 500, д-р Ж-віч В. 415, Занковіч М. 350, Калесьнікевіч М. 600, Каранеўскі М. (група Новая Зэляндыя) 1.600, Качан У 1.000, Кіпель Я. 360, Ліс С. 700, Лось Г. 490, Л-ха М. 200, Мі-люк 1.100, а. Навіцкі 1.000, Н-юк Ч. 680, Пітушка Я. 700, Прытыцкі Б. 500, Радзеўскі 800, Р-ка А. 300, Савёнак А. 1.120, Саўко Н. 1.000, д-р Сак-кі С. 1.000, д-р С-ок М. 1.800, Скабей М. 750, Скапец Т. 490, Сенкевіч Г. 490, д-р Ту-ш 1.750, Шчарбук Я. 500, Шумскі П. 1.100.

## АБРАЗОК З ЖЫЦЦЯ ПАКРЫЖАВАНЫЯ НАМЕРЫ

Група камуністаў у італьянскім мястэчку Сэсто-Сан-Жовані пастанавіла зрабіць прагулку ў Люрд, каб там на мейсцы асабіста выясьніць «забабоны», якія зьвязаны з пячораю, дзе ў 1858 г. зьявілася Маці Божая і дзе ўвесь час дзеюцца нязьлічаныя цуды. Заплянаванае выясьненьне скончылася аднак зусім ня так, як гэтага хацелі камуністычныя арганізатары. Партыйныя камуністычныя кіраўнікі, якія суправаджалі прагулку, мелі вельмі няпрыемную неспадзеванку, калі ўбачылі, што большая частка ўдзельнікаў прагулкі, камуністаў, пад уражэньнем пераажываньняў перад цудатворнаю статуяю Маці Божае, пабожна кленчылі і шчыра маліліся — там ажыла іхняя памёршая пад узьдзеяньнем камуністычнае прапаганды вера.

# ЗЬМЕСТ

а. Леў — Мэсіяністычныя прароцтвы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 1

а. Л. Рымар — Мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі . . . . . . . . . . . . . . . . . 5

а. Л. Гарошка — Пад знакам «рускае і польскае веры» (Працяг 4-ы) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 8

На рэлігійнай ніве . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 12

Беларуская хроніка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 14

Прысланыя ў рэдакцыю пэрыёдыкі і кнігі . . . . . . . . . . . . . . . . . ***

Абразок з жыцьця . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . ***